PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 34 (2154) Год XLII Беласток 24 жніўня 1997 г. Цана 1 зл.



*Фэст у Семяноўцы.* Артыкул Міры Лукшы чытайце на 5 староньцы.

## У нумары



Занатоўкі ўдзельніка II З'езду беларусаў свету

# Беларусь, калі ж ты будзеш дома

Юстын Пракаповіч

Дзякуючы інфармацыі ў адным з майскіх нумароў „Нівы" мне, звычайнаму жыхару Беластока, удалося ўдзельнічаць у якасці госця ў II З'ездзе беларусаў свету — вялікім форуме сусветнага ўзроўню, які ў днях 26-27 ліпеня г.г. арганізавала ў Менску Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына". Карыстаючыся нагодай выказваю вялікую ўдзячнасць гэтай арганізацыі за дасланне мне запрашэння. Уражанні ад гэтага мерапрыемства застануцца ў маёй памяці да канца майго жыцця.

Падрыхтоўцы з'езду спадарожнічала напружанне і хваляванне, выкліканае непрыхільнасцю з боку адміністрацыі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, якая да апошняй хвіліны намагалася перашкодзіць у правядзенні мерапрыемства. Напярэдадні з'езду кіраўніцтва ЗБС „Бацькаўшчына" атрымала вестку, што глядзельная зала Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі, у якой планавалася правесці мерапрыемства, зачынена на некалькі замкоў, а дырэктар тэатра 24 ліпеня выехаў на адпачынак на возера Нарач.

25 ліпеня я асабіста зайшоў у сядзібу „Бацькаўшчыны" зарэгістравацца. Была 11 гадзіна. Старшыня Рады ЗБС Ганна Сурмач і яшчэ тры жанчыны плакалі з прычыны дзеянняў лукашэнкаўскай адміністрацыі. Каб высветліць сітуацыю, прэзідэнт ЗБС Радзім Гарэцкі асабіста падаўся ў прэзідэнцкі палац, а адзін з членаў Вялікай Рады ЗБС паехаў на возера Нарач шукаць дырэктара Тэатра музкамедыі. Спадарыня Сурмач папрасіла прыйсці а 20 гадзіне на прэс-канферэнцыю, на якой будзе паведамлена ці адбудзецца з'езд, а калі так, то ў якім памяшканні.

На прэс-канферэнцыі сустрэў я знакамітых барацьбітоў за суверэнітэт нашай Бацькаўшчыны — Валерыя Шчукіна, Славаміра Адамовіча і уніяцкага святара а. Яна Матусевіча. Славамір Адамовіч прасіў мяне перадаць падзяку ўсім беларусам Польшчы, а асабліва Беласточчыны, за аказаную яму салідарную падтрымку падчас турэмнага зняволення. Гэта дазволіла яму пераадолець усе цяжкія хвіліны падчас знаходжання ў турме.

Прэс-канферэнцыю адкрыў прэзідэнт ЗБС Радзім Гарэцкі, які сказаў: „З'езд адбудзецца. Прадстаўнікі прэзідэнта Лукашэнкі знайшлі месца адпачынку дырэктара Тэатра музкамедыі і зараз ён прыедзе ў Менск". Прамоўца прыгадаў, што прадстаўнікі прэзідэнцкай каманды патрабавалі, каб удзельнікі з'езду не выказваліся крытычна аб уладах Беларусі, асабліва аб прэзідэнце Аляксандру Лукашэнку. Гарэцкі адказаў ім, што ўдзельнікі з'езду не маюць намеру крытыкаваць урад Рэспублікі Беларусь.

Айцец Ян Матусевіч перасцерагаў арганізатараў перад злачыннай правакацыяй з боку дзяржаўных структур з мэтай сарваць з'езд. Можа гэта быць паведамленне, — сказаў святар, — што ў тэатральную залу падложана ўзрывучатка; у такой сітуацыі закрыюць залу і будуць шукаць бомбу дзень або і два, але яе не знойдуць. Прапанаваў ён, каб побач міліцыянераў вакол тэатра паставіць сваіх ахоўнікаў.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі з палёгкай успрынялі вестку, што з'езд усё ж такі адбудзецца, а спадарыня Ганна Сурмач працерла слёзы з вачэй і стала ветліва ўсміхацца. У радасным настроі вярнуўся я на кватэру.

26 ліпеня а 10 гадзіне зала Тэатра музкамедыі запоўнілася дэлегатамі і запрошанымі гасцямі. Пасля адкрыцця з'езду Радзімам Гарэцкім зала паднялася, каб праспяваць гімн „Магутны Божа". Затым голас узяў Васіль Быкаў. Ягоныя патрыятычныя словы выціснулі слёзы ў слухачоў. Удзельнікі з'езду бурнымі воплескамі ўзнагароджвалі чарговых прамоўцаў: Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Лявона Баршчэўскага, Станіслава Шушкевіча, раз-пораз раздаваліся воклічы „Жыве Беларусь!"

Пасля выступлення Васіля Быкава на трыбуну ўвайшоў прадстаўнік прэзідэнцкай каманды, намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, каб зачытаць пасланне прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі да ўдзельнікаў II З'езду беларусаў свету. Спачатку гаварылася ў ім, што прэзідэнт Беларусі з прычы-

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*W dzisiejszej Polsce wartości moralne otoczyła swoista zasada względności, zapanowała moralność Kalego. Poseł partii, gromko głoszący zasady moralne, głosuje oburącz w Sejmie. Łapie go na tym kamera. I co? I nic. Działa nadal, nadal głosi potrzeby etyki i czystości w życiu politycznym. Inny poseł wymigawszy się z więzienia za pospolite oszustwo wkrótce potem został ministrem. Każdego dnia gazety donoszą o przypadkach zwalniania z aresztu bandziorów, gdyż jeden jest chory, inny ma biedną żonę, a trzeci tęskni do dziatek. Chłop, który ukradnie kilka drzew z lasu dostaje dwa lata i w całości je odsiaduje. Chłopcy, którzy ukradli na giełdzie po 15 milionów dolarów czytają o swoich osiągnięciach w gazetach i nikt im nawet nie jest w stanie postawić zarzutu kradzieży. Zresztą mogą kupić najlepszych prawników. Ale maluczcy też nie zaniedbują swoich interesów. Kiedy można zadzwonić na koszt firmy w sprawie prywatnej, wszyscy robią to bez skrupułu, chociaż jest to kradzież pieniędzy konkretnego człowieka lub grupy ludzi. Kapitalizm natomiast budowano na zaufaniu, słowo było równoznaczne z umową na piśmie. Oszukiwać lub kraść zwyczajnie się nie opłaca.*

*Kurier Poranny, nr 177*

* * *

*Czasem ci, którzy w czasach PRL nie byli odważni jak lwy, dziś chcą być przynajmniej tak odważni jak hiena cmentarna, dzielnie atakując rosyjskie pomniki i groby.*

*Gazeta Wyborcza, nr 180*

* * *

*Sprawcami połowy podpaleń w Polsce są członkowie Ochotniczej Straży Pożarnej. Prawdopodobnie ma to związek z wyszynkiem w remizie, którego najlepszymi klientami są strażacy z OSP.*

*Polityka, nr 31*

* * *

*Co prawda mamy w Polsce kapitalizm, ale dotyczy on raczej używanej frazeologii. Trzeba pamiętać, że wiele biznesów stoi tu nie pracą, tylko spekulacją, znajomościami i wysysaniem forsy z budżetu państwa, że za wieloma rzekomo prywatnymi firmami stoją mafijno-feudalne układy komunistyczne.*

*Najwyższy Czas, nr 31*

* * *

*Dzieci na Białorusi mają jedynego ojca, którym jest ich prezydent Aleksander Łukaszenka,* — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

*Życie, nr 168*

* * *

*Свобода совести — одна из главных составляющих подлинной демократии,* — заяўляе

*Советская Белоруссия, н-р 141*

Пра „свободу совести” ніхто так не клапоціцца ў Беларусі, як менавіта „Советская Белоруссия” і прэзідэнцкае тэлебачанне.

* * *

*У Лукашэнкі выпрацаваўся двайны стандарт падыходу да моладзі, якую ён падзяляў на „сваю” і „не сваю”. „Свая” — гэта Сава Янчэўскі і ягоны „Лукамол” (Беларускі патрыятычны саюз моладзі). „Лукамол” у адрозненні ад іншых грамадскіх арганізацый падтрымліваецца на кошт падаткаплацельшчыкаў. Яго структуры займаюць пад офісы будынкі ў цэнтры гарадоў і пасёлкаў. „Не свая” моладзь — гэта юныя патрыёты не „славянскага”, але беларускага нацыянальнага ўзору, яны змагаюцца супраць дыктатуры, іх кідаюць у вязніцы і выкідаюць са студэнцкіх аўдыторыяў. Яны — галаўны боль кіраўніцтва дзяржавы. Каб не набольшваць рады „не свае” моладзі Лукашэнка дэкрэтам н-р 182 пераняў будынак Беларускага гуманітарнага ліцэя. Цяпер ён у распараджэнні Івана Ціцянкова, адміністратара прэзідэнцкай маёмасці.*

*Народная воля, н-р 128*

* * *

*W systemie rosyjskim, cokolwiek by mówić o korupcji i ryzyku inwestowania, jednak działają mechanizmy wolnorynkowe, a społeczeństwo żyje wśród swobód obywatelskich. Rzeczywistość białoruska przypomina bardziej kraje środkowoazjatyckie niż europejskie. Naczelną zasadą władz białoruskich jest zachowanie kontroli nad wszystkimi obszarami życia społecznego i gospodarczego kraju.*

*Gazeta Wyborcza, nr 179*

* * *

*Беларусь застанецца незалежнай дзяржавай да таго часу, пакуль народ не выкажа сваю волю на рэферэндуме наконт аб'яднання з Расіяй у адну дзяржаву,* — заявіў Прэзідэнт А. Лукашэнка.

*Голас Радзімы, н-р 31*

Калі „Прэзідэнт А. Лукашэнка” аб'явіць рэферэндум наконт аб'яднання Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву, у яго выніках мы не сумняваемся. Традыцыйна будуць яны гатовы на пару тыдняў да рэферэндуму. У акуратнай дзяржаве можна намнога раней прадбачыць ход падзей.

* * *

*Białoruś jest państwem policyjnym — stwierdza raport Human Rights Watch, nowojorskiej organizacji zajmującej się badaniem stanu przestrzegania praw człowieka na świecie. Środki przekazu zostały przymuszone do zaprzestania wszelkiej krytyki, organizacje obywatelskie do samolikwidacji, a opozycję uciszono. Dozwolony jest tylko jeden pogląd — prezydenta — prezentowany jako prawda absolutna.*

*Rzeczpospolita, nr 181*

# З мінулага тыдня

**У Маскве** Фонд абароны галоснасці правёў пікетаванне беларускага пасольства. Удзельнікі акцыі патрабавалі вызваліць арыштаваных у Беларусі журналістаў расейскай тэлекампаніі ОРТ: **Паўла Шэрэмета, Дзмітрыя Завадскага і Сяргея Аўчыннікава**. Шэф Фонду **Алег Панфілаў** заявіў, што мэтай пратэсту было напомніць беларускім уладам, а асабліва прэзідэнту краіны, што збіранне інфармацыі — гэта канстытуцыйнае права журналістаў. Пікетчыкі трымалі транспаранты з надпісамі: „Беларусь — турма для журналістаў”, „Лукашэнка, тваіх тлумачэнняў чакае не толькі прэзідэнт Расеі, але ўсе, што даражаць свабодай слова”. Ніхто з беларускіх дыпламатаў да ўдзельнікаў пікета не выйшаў.

**У Варшаве** пасол Рэспублікі Беларусь **Віктар Бурскі** і першы намеснік міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі **Юзэф Каліш** афіцыйна перадалі прадстаўніку Еўрапескай камісіі ў Польшчы **Рольфу Цывансу** беларуска-польскі зварот. У ім змяшчаецца просьба да міжнароднай арганізацыі аб выдзяленні Еўрапейскім Саюзам фінансавых сродкаў на ўладкаванне беларуска-польскай граніцы. Прадстаўнік Еўрапейскай камісіі падчас гутаркі падкрэсліў, што пры выдзяленні сродкаў будзе ўлічвацца эканамічная і палітычная сітуацыя ў краінах.

**У Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку** архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** — праваслаўны палявы ардынарый Войска Польскага адправіў вячэрню за войска, свята якога штогод адзначаецца 15 жніўня. Нядзеля перад гэтым святам (10 жніўня) была днём Праваслаўнага ардынарыята. Сабраныя маліліся асабліва за тых салдат, якія служаць іншым людзям у патрэбе, між іншым дапамагаюць пацярпеўшым ад паводкі. Праваслаўная царква ў Польшчы мае ваенныя прыходы ў Беластоку, Варшаве, Вроцлаве, Гданьску, Пярэмышлі і Цехацінку. У ваенных і пагранічных часцях душпастырскую паслугу нясуць дваццаць праваслаўных капеланаў. Архіепіскап Сава — адзіны ў свеце праваслаўны палявы ардынарый у званні генерала.

**У Беластоку** 12 выбарчых камітэтаў зарэгістравала 144 кандыдатаў у Сейм і 11 у Сенат. Беларуская кандыдаты ў паслы, апрача Згуртавання славянскай нацыянальнай меншасці — Праваслаўныя, балаціруюцца са спіскаў УП **(Яўген Вапа)** і СЛД **(Ян Сычэўскі)**. Кандыдатаў у сенатары **(Міхал Кандрацюк і Ян Тапалянскі)** вылучыла таксама БДА.

**Беластоцкая Унія працы** звярнулася з заклікам да Беластоцкага тэлебачання стварыць чатыром найбольшым палітычным групоўкам рэгіёна магчымасць правесці ў тэлеэфіры перадвыбарчую публічную дэбату. Тэмай спрэчак былі б пытанні беспрацоўя, жыллёвага дэфіцыту, бяспекі, сельскай гаспадаркі і аховы здароўя.

**Абедзьве Бельскія гміны** (гарадская і сельская) вырашылі супольна з мясцовай будаўнічай фірмай „Унібуд” паставіць жылы будынак плошчаю ў 50 кв. м для пацярпеўшых ад сёлетняй паводкі. Дом варты каля 65 тыс. зл. стане ў гміне Барова Жэшаўскага ваяводства.

**Любіцелі птушак** — маладыя людзі з Польшчы, Нямеччыны і Беларусі — сарганізавалі лагер у гаспадарцы Паўночнападляшскага таварыства аховы птушак у Гелчыне на Беласточчыне. На працягу двух тыдняў юныя натуралісты высякалі зараснікі ў Бебжанскім нацыянальным парку, каб стварыць адпаведныя ўмовы для тых гатункаў птушак, якія патрабуюць адкрытай прасторы.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- **Адзінокія людзі на лавачках** — артыкул Міхала Мінцэвіча пра лёс найстарэйшых жыхароў вёскі.
- **Наталля Арсеннева** — нарыс Ганны Кандрацюк пра жыццё і творчасць паэтэсы.

# Весткі з Беларусі

**Чарговы савет**

Прадстаўнікі дваццаці палітычных партый і грамадскіх рухаў Беларусі падтрымалі ідэю стварэння грамадскага кансультатыўнага палітычнага савета пры прэзідэнце, — заявіў памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў. Ён лічыць, што праз мяркуемы савет улада магла б весці дыялог з палітычнымі арганізацыямі, у тым ліку і з тымі, прадстаўнікі якіх не ўвайшлі ў склад цяперашняга парламента. У Менску ў ходзе канстультацый і выпрацоўцы мадэлі супрацоўніцтва было прынята рашэнне, што да 1 верасня палітычныя партыі і грамадскія рухі на сваіх з'ездах, нарадах, саветах і адпаведных сходах абмяркуюць ідэю стварэння дадзенай структуры, вылучаць сваіх афіцыйных прадстаўнікоў у ініцыятыўную групу па выпрацоўцы рэгламенту работы савета. Пасля гэтага рэгламент будзе прапанаваны на зацвярджэнне прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку.

**Прэзідэнт не баіцца ціску**

Адбылася сустрэча прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі са спецыяльным прадстаўніком Еўрапейскага Саюза ў Беларусі Ары Костам. Размова была прысвечана праблемам адносін Беларусі з еўрапейскімі міждзяржаўнымі ўтварэннямі, такімі як Еўрасаюз, АБСЕ і Савет Еўропы. Аляксандр Лукашэнка заклікаў да адкрытага дыялогу і адзначыў, што, з'яўляючыся суверэннай і незалежнай дзяржавай, Беларусь не прымае ніякага ціску звонку: ні з захаду, ні з усходу.

**Ажывае радыяцыйная зона**

Паступова вяртаецца жыццё ў зону строгага радыяцыйнага кантролю, значыць, вядзецца і будаўніцтва. Калектыў МПМК-105 Аб'яднання „Мазырсельбуд” узводзіць у гарадскім пасёлку Хойнікі важны для рэгіёна аб'ект — хлебазавод. У гэтым жа раёне ў вёсцы Храпкаў заканчваецца будаўніцтва лазні, а ў Брагінскім раёне завяршаюцца работы ў магазіне.

**Свята пісьменства**

Адлік беларускага кнігадрукавання вядзецца з выхаду ў свет „Псалтыра” Францыска Скарыны. Здарылася гэта 480 гадоў таму. Гэтай даце будзе прысвечана святкаванне Дня беларускага пісьменства і друку. Чацвёртае па ліку свята адбудзецца 7 верасня ў Нясвіжы. У праграме святочных мерапрыемстваў: навукова-практычная канферэнцыя „480 гадоў беларускаму кнігадрукаванню”, адкрыццё персанальнай выставы работ мастака Яўгена Ждана, прадстаўленне карціны старажытнай культуры, гала-канцэрт вядучых мастацкіх калектываў краіны.

**Цэрквы ў калгасах**

Ордэнам князя Уладзіміра трэцяй ступені ўзнагароджаны старшыня Хоцімскага райвыканкама Іван Кажамяка. Гэтай высокай узнагароды, заснаванай Праваслаўнаю царквой, ён удастоены за дапамогу ў аднаўленні храма Святой Тройцы ў Хоцімску, што на Магілёўшчыне. Раней за актыўны ўдзел у будаўніцтве цэркваў на тэрыторыі сваіх гаспадарак былі ўзнагароджаны ордэнамі святога благавернага князя Данііла Маскоўскага старшыня калгаса „Авангард” Хоцімскага раёна Анатоль Анціпенка і старшыня калгаса „Гігант” Бабруйскага раёна Міхаіл Левакоў. Зараз мясцовыя гаспадаркі дапамагаюць узводзіць цэрквы ў вёсках Галаўчын Бялыніцкага і Мышкавічы Кіраўскага раёнаў.

**Новы рынак**

У беларускай сталіцы будзе новы крыты рэчавы рынак. Ён размесціцца побач з вядомым Камароўскім. Праектаваннем, будаўніцтвам і эксплуатацыяй рынку будзе займацца дзяржаўнае прадпрыемства „Экачыст” і Менскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. Адміністрацыя Савецкага раёна Менска выдзеліць грошы з небюджэтных сродкаў для фінансавання работ.

**Забойца ў ізалятары**

Дзякуючы супрацоўніцтву і высокаму прафесіяналізму работнікаў пракуратуры і аператыўных служб Упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскай вобласці затрыманы злачынец, які забіў шасцігадовую дзяўчынку ў Шклове. Забойства ўчыніў раней двойчы судзімы жыхар Магілёва 1953 года нараджэння, які нідзе не працаваў. Падазроны арыштаваны і накіраваны ў следчы ізалятар.

# Нашы мястэчкі і вёскі

### Клужкі

Неіснуючая вёска колішняй Арлянскай валасці. У 1577 годзе распалажана была на 24 валоках і мела адну карчму. Памяць пра Клужкі ў народзе не захавалася і ніхто да гэтай пары не ўстанавіў яе месцазнаходжання. Няма таксама аднайменнага ўрочышча. Праўдападобна знаходзілася яна за Орляй, у лясным масіве з боку Рудутаў.

### Вервечкі

Таксама неіснуючая вёска колішняй Арлянскай валасці, пазначана на картах 1848 і 1880 гадоў. Знаходзілася яна на месцы сённяшняй каленіі Антанова і цягнулася ў напрамку прыхадскога могільніка ў Орлі, абапіраючыся на правы бераг ракі Арлянкі. У васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя Орлю і навакольныя вёскі спасцігла эпідэмія халеры, у выніку якой вымерлі амаль усе жыхары Вервечак. Да эпідэміі налічвала яна 82 гаспадаркі, а ў 1577 г. займала 25 валокі, мела тры карчмы і сем каморнікаў. Ад заразы ацалела толькі 9 гаспадароў, якіх тадышні ўладальнік Орлі князь Вітгенштэйн перасяліў у таксама пацярпеўшыя ад халеры Вульку і Міклашы. Такім чынам Вервечкі зніклі з паверхні зямлі і картаў. Ад гэтай трагічнай падзеі захаваўся толькі халерычны могільнік з памятным крыжом, узведзеным уладальнікам гэтах грунтаў Пятром Кубаеўскім, які жыў 105 гадоў.

Старажылы памятаюць яшчэ расказы сваіх дзядоў аб гэтым жудасным здарэнні і прозвішчы тых, каго перасялілі: Хурса, Кірылюк-Ёдла, Таранта. Ад вёскі захавалася толькі пясчаная дарога з каленіі Антанова ў Орлю і палі, на якіх Гмінная ўправа адкрыла ў 1997 г. кар'ер, дзе капаюць жоўты пясок.

### Орля

Колішняе мястэчка (гарадскія правы страціла ў 1921 г.), а цяпер пасёлак з сядзібай Гміннай управы, у якім жыве больш за тысячу жыхароў. Назва вываодзіцца ад арлоў — птушак, якія вадзіліся ў колішніх аграмадных лясных масівах над аднайменнай рэчкай, якую пазней сталі называць Арлянкай. У даліне рэчкі знойдзены сляды пасялення XII-XIII стагоддзяў.

Орля ўваходзіла ў састаў Вялікага княства Літоўскага. З дакументаў 1507 г. вынікае, што ў гэтым годзе права на заснаванне горада атрымаў ад караля Зыгмунта пісар троцкага ваяводы Яська Івановіч, які пасля засялення гэтай тэрыторыі перадаў Орлю ў 1510 г. літоўскаму падскарбіму, русіну з Валыні, Міхалу Богушу Багавіцінавічу герба Корчак, які выступіў фундатарам першай арлянскай царквы (каля 1516 г.). Пры ім мястэчка разбудавалася. 2 лістапада 1529 г. перадаў ён у тастаменце Орлю старэйшай дачцэ Анне. Неўзабаве мястэчка стала ўласнасцю бэлзскага старасты Станіслава Тэнчынскага, які ажаніўся з Ганнай. Чарговымі ўладальнікамі былі сучасныя князі Алелькавічы. Пры іх пананаванні ў састаў Арлянскай валасці ўваходзілі наступныя вёскі: Кашалі, Вервечкі, Шарні, Тапчыкалы, Рудуты, Крывятычы і Тапаркі.

У 1585 г. Арлянская валасць амаль на тры стагоддзі перайшла ва ўладанне Радзівілаў. Пры гетмане Крыштофе Радзівіле мястэчка перажыла перыяд буйнага росквіту. У 1618 г. Орля атрымала прывілею на гарадское права. Рост гаспадарчага значэння мястэчка схіліў Радзівілаў пабудаваць у 1622 г. абарончы замак з чатырма рагавымі вежамі і кальвінісцкі збор (які пазней яўрэі адкупілі і прыстасавалі на Вялікую сінагогу). У часе шведскага патопу ў 1655-1657 гг. замак быў моцна разбураны (цяпер на месцы замка — дзялянкі 160-166 пры вуліцы Бельскай — знаходзяць яшчэ манеты і кавалкі фарфору). У 1634 г. Орля атрымала магдэбургскае права, якое Януш Радзівіл пацвердзіў 15 мая 1643 г. і прысвоіў мястэчку герб: укараnаваны княжацкай мітрай чорны арол з тапаром у правай назе на чырвоным полі. У саракавых гадах XVII ст. Орля стала цэнтрам кальвіністцкага руху. У 1654 г. у Орлі былі царква і рымска-каталіцкі касцёл.

У II палове XVIII ст. Орля належала Браніцкім. Пасля III падзелу Рэчы Паспалітай мястэчка апынулася ў межах Прусіі, а ў 1807 г. далучылі яго да Гродзенскай губерні Расійскай імперыі. У XIX ст. Орля становіцца ўласнасцю князя Пятра Львовіча Вітгенштэйна, які быў жанаты з княгіняй з роду Радзівілаў. У 1874 г. прадаў ён зямлю жыхарам Орлі.



*Капліца св. Сімяона Стоўпніка.*

У XVI ст. у Орлі былі дзве царквы — св. Сімяона Стоўпніка і св. Іаана Багаслова. Гэты апошні храм існаваў да паловы XVIII ст., а Сімяонаўская царква згарэла ў 1790 г. Сем гадоў пазней на яе месцы была ўзведзена царква св. Міхала Архістраціга. У 1867-1870 гг. пабудавана была могільнікава царква св.св. Кірылы і Мяфодзія. На старым цэрквіску, дзе стаяў самы першы арлянскі храм, у 1989-1994 гг. намаганнямі цяперашняга настаяцеля а. прат. Аляксандра Такарэўскага ўзведзена была мураваная капліца св. Сімяона Стоўпніка.

Яшчэ ў 1988 г. Арлянская гміна займала плошчу 172 кв. км і налічвала 23 вёскі з 4891 жыхаром, з ліку якіх 2 тысячы пражывалі ў самой Орлі. Цяпер гміну насяляе 4068 чалавек, а ў самой Орлі жыве 1039 асоб. Зараз у гміне 22 вёскі (у 1995 г. Крывая перайшла пад Бельскую гміну).

З Орлі выводзіцца многа вядомых людзей. Тут нарадзіліся: Мікалай Нестаровіч — тэлеаператар, аўтар здымкаў для дакументальных фільмаў, працуе ў Польскім тэлебачанні ў Варшаве; Анатоль Адзіевіч — фізік, прафесар Філіяла Варшаўскага універсітэта ў Беластоку; Яўген Чыквін — галоўны рэдактар штомесячніка „Przegląd Prawosławny"; Васіль Ляшчынскі — дырэктар Пачатковай школы № 3 з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім; Юрка Лячшчынскі — радыёжурналіст, аўтар беларускіх перадач „Пад знакам Пагоні" ў Беластоцкім радыё. У Орлі жыве Міхал Мінцэвіч — артыстычна адораны чалавек, які цікавіцца гісторыяй Орлі і дакументуе з дапамогай жывапіснага пэндзля мастака і фотаздымкаў сучасны дзень сваёй Малой Айчыны. З'яўляецца ён таксама карэспандэнтам „Нівы" і пастаянным супрацоўнікам „Часопіса".

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Паводка

— Добры дзень, сусед.

— Добры дзень. А быў бы яшчэ лепшы, каб менш дажджу.

— А што, ужо надаеў?

— Надаеў, ай, як надаеў. Зямля такая сырая, аж хлюпае. Цяжка і сена дасушыць, і бульба без пары пачарнела, бы ўжо пара капаць настала, хаця да восені яшчэ далёка. Усё дажджы вінаваты.

— Ты ўсё наракаеш. А што гэтым бедным людзям казаць, якіх вада заліла.

— Ой, дзядзьку, гэта бяда, катастрофа. Такога ад вякоў не было, каб паводка разбушавалася сярод лета.

— Вось аб гэтым хачу з табой пагаварыць. Цяпер, бачыш, найважнейшай справай у нашай краіне з'яўляецца паводка на поўдні, не гаворачы аб выбарах. Гэтыя апошнія найважнейшыя для тых, хто хоча ў паслы праскочыць. А паводка — бяда ўсёй краіны. Вось што вада можа зрабіць, — прамармытаў сусед бы сам да сябе. — А ж цяжка ўявіць, каб сярод лета, у такую пару, вада выліла. Так, сынок, так, гэта ўсё — Гасподняя кара.

— Ой, дзядзьку, дзядзьку. Зараз ужо і кара. А за што гэта? Каб аж такую бяду людзі пераносілі?

— А што, няма за што? Калі людзі больш грашаць, як не цяпер?

— Ну, і даўней грашылі.

— Грашылі! Пэўна, што грашылі. Ну і кару за гэта пераносілі. А што, не вучылі цябе? А патоп, а Садом і Гамора, а войны?.. Як ты думаеш, не ад Бога ўсё гэта? І цяпер людзі так жа, а можа і горш сябе вядуць, пра сябе толькі дбаюць, аб нічым не думаючы. Бажкамі парабіліся, вечнымі хочуць быць, думаюць, свет дагары нагамі паставяць. А дудкі. Пачакайце, пачакайце, яшчэ сіла Божая над намі ёсць і час ад часу нам аб гэтым напамінае, каб мы хаця ў бядзе пакаяліся і Бога прыгануліі. З сілай, якая над намі, ніхто не справіцца і не адолее яе. Здавалася нам, што кожны бядзе адпор нанясем. А тут вынаходствы праваліліся. Стала глуха, цёмна, холадна і галодна. А такія былі мы моцныя, нічога і нікога не баяліся. А калі з захадам з'яднаемся, думалі, тады вада нам будзе па калена. І гэта ты, сынок, казаў. Памятаеш, пэўна? Чаму маўчыш?

— Ну, дзядзька, такой вады ніхто не бачыў, ніхто не памятае, аднак усяго спадзявацца трэба. Праўда, вучылі нас аб бедах, толькі не аб вадзе. Думалі, што на нас суседзі нападуць, атамную бомбу пусцяць. Спачатку Захадам страшылі, а цяпер Усходам палохаюць. Відаць, тады паводка нам не пагражала, таму і абараняцца ад вады не вучылі. І вось цяпер паслядоўнасці, ад якіх цярпець усім прыйшлося. Наракаюць людзі на ўрад. А ён што, ваду затрымае? Не. Адзін Гасподзь можа гэта зрабіць. Хаця папа рымскі і стараўся, і маліўся, аднак не памагло. Добра адно, што хаця з Польшчы здолеў ён выехаць. Можа спачатку ўрад паступіў неадпаведна, аднак пан Цімашэвіч перапрасіў людзей. Мабыць, тады, калі першы раз узляцеў ён верталётам над залітымі мясцінамі, усяго няшчасця не ўгледзіў. Відаць, баяўся прамачыцца, за высока ўзняўся...

— Так, так, лепш пазней, чым ніколі. А бачыш, прэзідэнт паступіў палюдску. Зарплату сваю да канца года аддаў, каб граша людзям больш даставалося. Памятаеш, як Валэнса сваю Нобелеўскую прэмію мужыкам на ўгнаенні прызначыў. Аднак да нас грошы не дайшлі. Колькі я купляў, не адлічылі нічога на кошт Валэнсавага ахвярвання.

— Ай, чалавек таксама лепш пажыць хацеў і будуецца, бедалага, а гэта ўсё каштуе.

— То навошта трапаць языком? Усё гэта як кажуць: *піц на ваду*. Кажуць, у Амерыцы прэзідэнт пачынае выбарчую кампанію, калі ўступае на прастол. Можа і ў нас такі заходні абычай пайшоў. Вялікае дзякуй усім, якія паступілі па-хрысціянску, салідарна. Уся краіна дапамагае пацярпеўшым: збіраюць і пасылаюць усё: ад вопраткі да ежы і корму для жывёлы. Страшная вада нарабіла вялікай бяды. Так, з вадой жартаў няма! Неабходная яна для жыцця і грозная для чалавека.

— І бачыце, праўду кажуць: добрых сяброў пазнаць у бядзе можна. Тут не глядзяць, якога ты веравызнання ці нацыі якой. Бяда страшная, памагаюць усе. Хаця з намі, праваслаўнымі, неаднойойчы крыўдна паступалі і паступаюць. Мы, аднак, крыўдай не жывем. Бяда суседзям дапякла, трэба дапамагчы.

— Лепш другому памагчы, чым самому прасіць. Аднак усялякія людзі трапляюцца. Некаторыя на чужой бядзе нажыцца хочуць. Так, так. Ашуканцы і жулікі вядуцца ад незапамятных вякоў. Каб іх не стала, дык і бяды менш сярод людзей было б. Адзін стараецца пражыць сумленна, са сваёй працы, а другі — з ашуканства, абману. На гэтым свет стаіць і мы гэтага не зменім. Адно толькі можам цяпер уголас пагаварыць і панаракаць. Яшчэ раз вярнуся да паводкі. Людзі паступілі сумленна і па-чалавечы, ну і ўрад не астаўся ззаду, памагае як можа. І, думаю, у хуткім часе чалавечая бяда абатрэцца, раны зажывуць, людзі выплачуцца, да новай сітуацыі прывыкнуць. Пяройдуць усе да штодзённага жыцця. А жыццё з кожным днём свае турботы нясе. Колькі гэта прайшло, цяжка пералічыць і ўспомніць.

— Не ўспомніцца, таму што падобнага ў жыцці не было. Затопіць крыху, бывала, веснавым разводдзем...

— А што, не кара гэта Гасподня?

— Сапраўды так выглядае. Ну, няхай будзе па-вашаму...

Тут мая жонка загаласіла на ўсю глотку, бо я не дачуваю:

— Палітыкан, ідзі ў хату! Даволі балбатаць. Солтыс прыйшоў, пацярпеўшым ад паводкі грошы збірае!

— Іду, іду, няхай пачакае. На такую справу грэх адказаць. Няхай і тая залатоўка дапаможа камусьці ў яго цяжкім жыцці.

Нашы гмінныя ўлады пастараліся наведаць кожную сям'ю. І ў кожнай хаце не адказалі ім. Кожны дапамог, чым мог. Няхай пацярпеўшыя хутчэй атрасуцца ад вялікай бяды. Адно вядома: з матэрыяльнай бядой людзі хутка справяцца. Дапамогуць ім у гэтым усе людзі добрай волі. Духова, аднак, цяжка ім будзе сабрацца. Памяць астанецца на ўсё жыццё і некалькі пакаленняў будуць успамінаць бяду.

**Грыша Мароз**

# Я нічога не ведаю

**— кажа пракурор Вальдэмар Манкевіч — старшыня Акруговай камісіі даследавання злачынстваў сураць польскага народа ў Беластоку.**

***— Ці гатовы ўжо пратакол з эксгумацыі вазакоў у Кліхах і Пухалах-Старых?***

— Яшчэ не.

***— Ці гэтае забойства можна залічыць у катэгорыю злачынства супраць чалавецтва?***

— Я, пакуль, нічога не ведаю. Не я праводзіў эксгумацыю, а толькі Грамадскі камітэт сем'яў вазакоў. Я нават не думаў, што буду прысутнічаць у Кліхах. У адрозненні ад лесу каля Пухал-Старых, я не лічыў патрэбным капаць на могілках, бо не верыў, што там можна знайсці новыя, прыдатныя для следства факты. Гэтыя ж косці ўжо перавозілі і пасля стольках гадоў цяжка сцвердзіць, якія сляды ад забойства, а якія ад першай эксгумацыі. Па касцях нельга пазнаць забітых, а іншыя матэрыяльныя доказы, як вопратка, так доўга ў зямлі не захоўваюцца. Ну, але камітэт палічыў, што месца пахавання неадпаведнае, бо яно на каталіцкіх могілках. Я, зрэшты, толькі там даведаўся, што яны былі праваслаўныя, бо ж не заўсёды вядома, хто якой канфесіі. Пытацца пра гэта нээлегантна, жывем жа ў канцы XX стагоддзя і цяпер нават у пратаколах допытаў няма рубрыкі „веравызнанне".



*Пракурор Вальдэмар Манкевіч (у цэнтры) на могільніку ў Кліхах.*

***— Вы назвалі адну з прычын стараннаў перавезці астанкі вазакоў з Кліхаў і, па-мойму, не самую галоўную. Па-першае, сямейнікі забітых — гэта ўжо пажылыя людзі і не змогуць ездзіць у Кліхі, бо гэта ўсё ж такі даволі далёка, даглядаць магілу. Па-другое, праведзеная ў 1951 годзе эксгумацыя ў Пухалах была недакладнай. Там засталіся яшчэ косці. Без адкрыцця магілы ў Кліхах мы не маглі б сказаць колькі асоб напэўна там было забітых і колькі неадкрытых астанкаў засталося ў тым лесе.***

— Смерць фурманоў — гэта для мяне толькі фрагмент шырэйшай справы. Я вяду расследаванне па справе спаленых пасля вайны вёсак: Залешан, Шпакоў, Заняў, Волькі-Выганоўскай. Тым часам з'явіўся да мяне Грамадскі камітэт сем'яў вазакоў. Я сказаў, калі ласка, можна правесці эксгумацыю, напэўна адпаведныя ўстановы паставяцца да гэтага прыхільна, толькі трэба пазбягаць коштаў. Наша камісія не мае на гэта сродкаў, таму найлепш будзе, калі маладзейшыя члены сем'яў сваякоў гэтых фурманоў будуць капаць грамадскім чынам. Я забяспечу ўдзел лекара і сам ахвотна буду пры раскопках. Але камітэт праявіў нейкую такую бездапаможнасць, відаць, лічыў, што пасля прадстаўлення справы мне ўсё ўжо аформлена. А потым публічна хтосьці з сяброў камітэта выказаўся, што камісія не вельмі квапіцца праводзіць эксгумацыю.

***— Як доўга вядзецца следства і што ўжо вам удалося ўстанавіць?***

— Першыя інфармацыі пачаў я збіраць каля двух гадоў таму, але пасля-доўна вяду я яго некалькі месяцаў. Следства, трэба сказаць, цяжкае, бо няма ўжо сведкаў, а ў публікацыях ранейшага перыяду я не знаходжу фактаў, прозвішчаў ахвяр, толькі сцверджанні тыпу „reakcyjne podziemie", якія нічога не гавораць. Тут трэба аддаць належнае камітэту, што ён за нас зрабіў частку працы, ідэнтыфікуючы ўсіх забітых вазакоў. Прыехалі сямейнікі ахвяр, я ўзяў іхнія адрасы, будуць новыя сведкі, якія, спадзяюся, папхнуць следства наперад.

***— Якія новыя факты ў следства ўнесла гэтая эксгумацыя ахвяр масавага злачынства?***

— Я б сказаў, групавога забойства. У некаторых чэрапах знайшлі мы дзіркі ад куляў. Што тычыцца іншых пашкоджанняў, лекар не мог упэўнена сцвердзіць, ці былі яны прычынаю смерці, ці паявіліся ў час першай эксгумацыі. Мы мусім знайсці альбо пратакол першай эксгумацыі, альбо яе сведкаў.

***— Як доўга будзе працягвацца следства і чым яно можа скончыцца?***

— Пра час я яшчэ не магу нічога сказаць. А чым можа скончыцца? Калі віноўнікі не жывуць, справа будзе спынена.

***— Я разумею, што пасля смерці цяжка кагосьці прывесці перад трыбунал, але ж прозвішчы забойцаў назваць трэба.***

— Нашы намаганні ідуць у гэтым напрамку.

***— Ці вы не ведаеце, хто забіў?***

— Я чытаю публікацыі папярэдняга перыяду, у якім над фактамі дамінавала палітычная публіцыстыка. Цяжка там знайсці верагодныя доказы. Або, напрыклад, чытаў я нядаўна кніжку пра правакацыі НКВД пасля вайны, праўда, у Беларусі. Але ж і тут яны маглі быць. Амаль ніколі не маем пэўнасці, з кім, з якім атрадам маем дачыненне. Нашы архівы некамплектныя. Часта доказаў трэба шукаць у архівах іншых дзяржаў. Таму пра віну таго ці іншага я не магу выказвацца. Але буду старацца, каб як найхутчэй следства закончыць, бо гэта справа прэстыжная.

***— А што вы вычыталі ў актах з працэсу „Бурага"?***

— Калі хтосьці трымаў у руках гэтыя акты, не абазначае гэта, што ўважліва чытаў іх ад пачатку да канца. Я мушу яшчэ раз гэтыя сем тамоў прагледзець і прааналізаваць. Хаця тыя, якія чыталі, кажуць, што ў гэтай справе там нічога няма.

***— Ці сем'ям закатаваных вазакоў належацца кампенсацыі і як яны могуць гэтага дабівацца?***

— З такім патрабаваннем кожны павінен выступаць індывідуальна. Гэта, не наша, камісіі, справа. Найлепш з гэтым пытаннем звярнуцца да міністра па справах ветэранаў Адама Чэслава Даброньскага.

**Інтэрв'ю ўзяў Мікола Ваўранюк**

*Фота аўтара*

# Беларусь, калі ж ты будзеш дома

[1 ☞ працяг]

ны вельмі важных дзяржаўных заняткаў асабіста не можа ўдзельнічаць у з'ездзе. (Зала спакойна выслухала гэтыя словы.) У далейшай частцы паслання А. Лукашэнка зычыў удзельнікам з'езду плённай працы, гаварыў аб сённяшнім развіцці беларускай дзяржавы, культуры ды іншага дабрабыту. Ад гэтых слоў зала ўсхвалявалася, прагучалі воклічы: „хлусня, падман, далоў дыктатара, маскоўскі халуй" і іншыя абразлівыя словы, пачалася тупаніна і свісты. Радзім Гарэцкі некалькі разоў супакойваў усхваляваных дэлегатаў і гасцей, а віцэ-міністр Рылатка некалькі разоў пачынаў чытаць прэзідэнцкае пасланне, але зала не давала яму дайсці да слова. Старшыня з'езду яшчэ раз заклікаў прысутных захаваць узаемнае разуменне, не абражаць уладу і асобу прэзідэнта, бо ўлады могуць зачыніць з'езд.

Старшыня Рады ЗБС „Бацькаўшчына" Ганна Сурмач у сваім выступленні прывітала дэлегатаў з блізкага і далёкага замежжа і з самой Беларусі. Паведаміла яна аб колькасці прысутных дэлегатаў з паасобных краін. Напрыклад, са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Бельгіі і Італіі прыехала па аднаму дэлегату, з Нямеччыны — 2, Літвы — 4. Найбольш шматлікая дэлегацыя прыехала з Польшчы — больш за сорак чалавек. Спадарыня Сурмач зрабіла ў гэтым месцы заўвагу, што з Польшчы прыехала менш длегатаў, чым высланых было запрашэнняў. Заўважыла яна таксама, што ў з'ездзе не ўдзельнічае старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа ды другія вядомыя асобы. Сказала яна прытым, дзеля нейкага апраўдання, што вакол з'езду паўсталі нейкія недаразуменні, бо, напрыклад, беластоцкая „Ніва" ўжо напісала, што II З'езд беларусаў свету адбыўся 8 ліпеня*. Зачытала яна тэлеграму ад Янкі Запрудніка з ЗША, у якой ён адзначыў, што на ягоную непрысутнасць на з'ездзе паўплывалі цяперашнія палітычныя абставіны на Беларусі. На заканчэнне Ганна Сурмач сказала: „Вельмі сумна, што так многа знакамітых беларусаў з краін далёкага замежжа не здолела прыехаць. Калі ў 1993 годзе на І З'ездзе з заходніх краін была большая частка ўдзельнікаў, то сёння бачым толькі паасобных дэлегатаў".

Старшыня Рады паведаміла залу аб нечаканай смерці Наталлі Арсенневай. Прысутныя ўшанавалі памяць паэтэсы хвілінай маўчання і адспявалі „Вечную памяць".

Чарговыя прамоўцы (Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Станіслаў Шушкевіч, Лявон Баршчэўскі, Юры Хадыка, Анатоль Лябедзька) у сваіх выступленнях гаварылі аб тым, калі і ў якіх абставінах можам пачуць крык чалавека. Вось гэты крык, пачуты на зале II З'езду, і ёсць крыкам на паратунак. Чалавек крычыць толькі тады, калі апынецца ў бязвыхадным становішчы. Наша Бацькаўшчына — Беларусь — апынулася ў такіх трагічных абставінах. Гэта менавіта тут была ўведзена дыктатура, разагнаны законна выбраны парламент, абвергнута канстытуцыя, тут парушаюцца правы чалавека, закрываюцца школы з беларускай мовай навучання. Ці ж не здзіўляе такі факт, што ў 10-мільённай дзяржаве працуе толькі адзін беларускамоўны гуманітарны ліцэй, якому ў апошні час прэзідэнцкая адміністрацыя забірае памяшканні? Калі ў 1992 г., у першым годзе пасля развалу Савецкага Саюза і абвяшчэння незалежнасці Беларусі, у Менску налічвалася больш за 130 беларускамоўных школ, то сёння іх лік упаў да 47. У Гародні лік гэтых школ у згаданым перыядзе зменшыўся з 28 на 3. Усе дзяржаўныя і камерцыйныя ўстановы, міністэрствы, а нават самазваная Палата Прадстаўнікоў — усе сталі рускамоўнымі. Міністр замежных спраў Іван Антановіч — чалавек адукаваны, які добра валодае беларускай мовай, у сваёй баязлівасці перад дыктатарам Лукашэнкам ніводным словам у сваіх выступленнях не заікнецца пабеларуску. Прыводзіўся таксама прыклад дырэктара аднаго прадпрыемства, які загадаў сваім падначаленым карыстацца выключна рускай мовай. Дык вось з гэтай прычыны народ і дэбеларускія прадстаўнікі на з'ездзе крычаць ад роспачы, клічуць на паратунак. Прамоўцы звярталіся да прэзідэнта ЗБС з заклікам не перапрашаць прэзідэнта Лукашэнку і ягоных чыноўнікаў за інцыдэнт падчас зачытвання паслання.





*Менск — 27 ліпеня 1997 г.* Фота Лены Глагоўскай

*(працяг будзе)*

**Юстын Пракаповіч**

*Як пазней высветлілася, гэту хлусню распусціў сярод удзельнікаў з'езду Адам Мальдзіс, які ў якасці доказу насіў пры сабе экземпляр „Нівы" быццам бы з артыкулам пра II З'езд ЗБС „Бацькаўшчына". Аказалася, што меў ён пры сабе „Ніву" ад 6 чэрвеня 1993 г. з артыкулам Яна Максімюка „З'езд беларускай меншасці" пра І З'езд ЗБС. Правакацыя гэта ці нейкая бязглуздзіца з боку шанаванага намі дагэтуль прафесара?

**У рэдакцыю „Ніва"

Здарылася прыкрая недарэчнасць. Выступаючы на II З'ездзе беларусаў свету, я пакрытыкаваў шаноўную „Ніву" за тое, што яна дэзінфармавала чытачоў, напісаўшы, што гэты „з'езд беларускай меншасці" ўжо адбыўся 8—10 ліпеня... На самой жа справе разам з новымі нумарамі „Нівы" хтосьці паклаў мне на пісьмовы стол нумар за 6 чэрвеня 1993 г., а я, не паглядзеўшы на дату, успрыняў інфармацыю чатырохгадовай даўнасці як свежую.

**Адам Мальдзіс**, *28.07.1997 г.*

# Наталля Арсеннева (1903—1997)

25 ліпеня 1997 года ў горадзе Рочэстэры, што ў Злучаных Штатах Амерыкі, памерла выдатная беларуская паэтка Наталля Арсеннева. Пахавалі яе на мясцовым могільніку побач ейнага мужа генерала Францішка Кушаля.

Наталля Арсеннева нарадзілася ў 1903 годзе ў Баку. У 1921 годзе закончыла Віленскую беларускую гімназію і паступіла на гуманістычны факультэт Віленскага універсітэта. Яе муж Францішак Кушаль быў афіцэрам польскай арміі, таму шмат гадоў міжваеннага перыяду Арсеннева пражыла ў цэнтры Польшчы. У 1940 годзе, як жонка польскага афіцэра, была саслана разам з двума сынамі ў Казахстан, дзе працавала ў калгасе. Месяц да нямецка-савецкай вайны, у маі 1941 года ўлады дазволілі Арсенневай вярнуцца ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі працавала яна журналістам у рэдакцыі „Менскай газеты". На пачатку 1944 года ўзначаліла Аддзел літаратуры Беларускага культурнага згуртавання. Паводле савецкіх законаў нават членства ў беларускіх арганізацыях культурнага характару было тады злачынствам. Памілавання з боку саветаў не мог таксама чакаць Францішак Кушаль, які ўзначальваў беларускія вайсковыя фарміраванні. У чэрвені 1944 года Арсеннева разам з сям'ёю выехала ў Нямеччыну, а ў 1950 годзе — у ЗША, дзе пражыла 47 гадоў.

Першыя творы Наталлі Арсенневай паказаліся ў віленскіх беларускіх газетах у 1920 годзе. Яе першы паэтычны зборнік „Пад сінім небам" выйшаў у 1927 годзе. Гатовы да друку быў таксама другі зборнік „Жоўтая восень", але пачатак вайны не дазволіў яго выдаць. У 1944 годзе паказаўся аднак у Менску чарговы зборнік паэзіі Наталлі Арсенневай „Сягоння". У Амерыцы творчасць Арсенневай стала больш разнастайнай. Пісала п'есы — „Сваты", лібрэта да опер Мікалая Шчаглова — „Лясное возера", „Усяслаў Чарадзей", тэксты для песень. Перакладала на беларускую мову класікаў сусветнай літаратуры — Гётэ, Пушкіна, Міцкевіча, Гаўптмана, Шэкспіра, а таксама рэлігійныя творы і лібрэта опер Штраўса, Моцарта, Вэбера, Чайкоўскага. Арсеннева прыблізіла сусветную культуру беларусам, а беларускую — сусветнай грамадскасці. Толькі на Бацькаўшчыне яе творчасць, за выключэннем кароткага перыяду 1990-1994 гадоў, не дапускалася да распаўсюджвання. Зашмат там было беларускага патрыятызму, тугі па свабодзе, мараў вольнага чалавека.

**(рэд.)**

# Фэст у Семяноўцы

У Семяноўцы ўвесь год чакалі дня св. Панцеляймона, каб усімі сем'ямі наведаць сваіх пакойных блізкіх у прыхадское свята і памаліцца. А традыцыяй стала тут таксама свята беларускае — фэст 9 жніўня. Такіх сустрэч тут цяпер няшмат, і таму чакаюць іх з нецярплівасцю. Памятаю беларускія фэстыны ў Семяноўцы са свайго дзяцінства, калі школьны двор і немалая спартыўная пляцоўка былі шчыльна набіты народам так, што ніяк я не магла прабіцца пад сцэну, каб паглядзець выступленні Гарадка з „Адвечнай песняй". Памятаю, як стаялі калісьці на сцэне шаноўныя госці і прамаўлялі, ды не доўга, пра розныя дасягненні. Цяпер гледачоў тут значна менш, затое з усяе Нараўчанскае гміны, з Гайнаўкі, Беластока... Сярод гасцей — на лавачках — прыватна прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч са сваімі амерыканскімі сябрамі (людзі кажуць, што без аховы прыехаў), традыцыйна — паслы Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, кандыдаты ў паслы Тадэуш Курыловіч і Ян Сычэўскі, ён жа старшыня найбольшай і найбольш магутнай беларускай арганізацыі ў РП. Народ прывітаў усіх сардэчна, па-гаспадарску, ветліва. Рады былі асабліва прэм'еру, бо завітаў сюды зусім неспадзявана, а справу жа ў яго шмат іншых і вельмі складаных. І гледачы артыстам таксама не шкадавалі апладысментаў, яны ж прыехалі развесяліць семяноўцаў, даць ім асалоду і радасць з быцця разам.

— Шкада, што інфармацыі пра фэстын практычна не было. А то яшчэ больш нас сюды прыйшло б і прыехала, — кажа маладая жанчына з Нараўкі. — Вы павінны ў „Ніве" яшчэ ў чэрвені даць спісак усіх фэстаў, арганізаваных БГКТ, на ўсё лета, то людзі ведалі б, што дзе адбываецца, чакалі б. Так хочацца пачуць сваё, пабачыць, сустрэць знаёмых...

Выступілі і свае — „Цаглінкі" з Ляўкова, спявачкі з Нараўкі, маладая „Лучына" адтуль жа. А таксама — беластоцкія „Зубры" і „Каласкі", Гарадок са Сцяпанам Копам і Юркам Налівайкам, Ала Дубец, Мікалай Мяжэнны... Усё быццам у калейдаскопе, упарамешку. І „Фэст", ансамбль музыкі і песні з Баранавіч, пад кіраўніцтвам Янкі Кусцінскага. „Гурт народных мызыкаў «Фэст»" усур'ёз усіх разварушыў, нават бабулек, а ў вальс пайшлі Валя з Сяргеем, Ала з Янкам... „Добра выступаюць, але чаму кажуць *пра кучаравава хлопца*? І пабеларуску павінна быць *так*, а не *да*!" — каментуюць маладыя слухачкі. „Ну, у нас хахлоў няма! — адказваюць на пытанне вядучаму, але ўкраінскую песню спяваюць разам з гуртом. „Гэта ж і нашы песні!" Пакуль высокія госці не ад'ехалі, здавалася мне, што быццам штосьці стрымлівае гледачоў. Можа, крыху бянтэжылі іх выказванні вядучай канцэрт? Мне асабіста рабілася вельмі прыкра, калі чула рэакцыю на яе словы: „Dziękujemy Panu za to, że w kraju, w którym Pan rządzi, Białorusini mogą śpiewać własnym głosem!" — „Ty, ona się tak mizdrzy?.. Ale jemu musi być łyso!" — „Тут, у Сімэноўцы, ніхто нікому ні мусіт і ні мусіў дзякаваць за тое, што хочэцца яму рот раскрыць, каб па-своему гаварыць! Падзякуем за тое, за што варто!" Людзі разважалі таксама пра тое, што сярод прадстаўнікоў *адзінай улады, якая спрыяе меншасцям*, сядзіць пасол, які галасаваў у парламенце супраць праваслаўных. „Jesteśmy z panem, panie premierze! Dla pana — „Wasiloczki" — „А я думаў, што і для нас!" Гэтыя пераклікі ўсё гучалі, хоць людзі хацелі **слухаць**, не гаварыць. Ніяк ім не хацелася рэагаваць на заклікі спадарыні Ласкевіч, што *пара пагаварыць*, вядома, пра палітыку. *Згодны вы з гэтым? Усміхаецеся...* Усмешка можа значыць шмат што. А палітыкі людзі маюць: *во пагэтуль!*

Фэст быў файны. Па небе лёталі выпушчаныя на волю гумовыя дэльфіны, жар-птушкі і шары з Мікі-Маўсам, напоўненыя гэлем. Былі піва, пепсі-кола, цукровая вата, цацкі. Пані Марыся з БГКТ прапанавала новыя касеты беларускіх гуртоў, пані з СЛД — брашуркі, календарыкі, візіткі сваіх калег і „лісту" для подпісаў у іхнюю падтрымку ў выбарах. На століку ляжала пару экземпляраў зборнікаў „белавежцаў" і беларускі каляндар. І многа, многа радасці было, што „нашы прыехалі". А і так найбольш апладысментаў дастаў войт Нараўчанскае гміны.

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Кляшчэлеўскія святкаванні

— Думка арганізаваць Дні Кляшчэляў, — пачаў нашу размову спадар Аляксандр Сяліцкі, бурмістр горада, — нарадзілася тры гады назад, калі вярнулі нам гарадскія правы. Аднак тады мы не мелі яшчэ магчымасці яе рэалізаваць. Па-першае, не мелі адпаведнага аб'екта для правядзення мерапрыемства ў шырэйшым маштабе, а па-другое, не хапала грошай у бюджэце гміны.

— Скажыце, калі ласка, чаму якраз святкаванні праводзіліся ад 1 да 3 жніўня? — пытаю свайго суразмоўцу.

— На 1 жніўня мы назначылі дату сустрэчы ахвотных заснаваць Таварыства сяброў Кляшчэлеўскай зямлі. Гэта дата выпадковая, а патрэбу стварэння якраз такога таварыства выказвалі многія кляшчэлеўцы, якія пражываюць у розных гарадах і мясцінах краіны, і якія падтрымоўваюць з нашай Управай сувязі.

— І паўстала таварыства?

— У назначаны тэрмін, гэта значыць 1 жніўня, прыехалі да нас госці з Вроцлава, Кракава, Любліна, Беластока, Варшавы і іншых многіх мясцін. Варта, аднак, адзначыць факт прынящця запрашэння ксяндзом-пробашчам Аляксандрам Яноўскім з Монрэаля, канадскага горада. Разам сабралася 50 асоб. На першым сходзе мы абмеркавалі статут і назначылі напрамкі дзейнасці. Таварыства прыняло назву „Гняздо". Старшынёй стаў доктар Васіль Крупіч, ад'юнкт аддзялення механікі Беластоцкай політэхнікі.

— Чаму прынялі вы такую назву?

— Гняздо — гэта сімвал роднага куточка. Як птушкі вяртаюцца да сваіх гняздзечак, так нашы кляшчэлеўцы прагнуць вярнуцца на Бацькаўшчыну, успомніць дзяцінства, юнацкія гады, сустрэцца з сябрамі. Залу ўпрыгожылі мы звітымі з бярозавых галінак гнёздамі. Сустрэча працягвалася некалькі гадзін, а ўражанні гасцей цяжка апісаць словамі.

На другі дзень праводзіліся спартыўныя ігры. Былі спаборніцтвы па плаванні, футбольныя і валейбольныя матчы. Найбольшай атракцыяй былі вулічны бег і змаганні футбольных камандаў за скрынку піва. Гулялі каманды з Кляшчэляў і Чаромхі. Перамаглі гаспадары сустрэчы з вынікам 4:3 і ім дасталася скрынка піва. А ў нядзелю адбыўся беларускі фэст.

На фэст сышлося многа людзей. Прыехалі да нас: Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку і яго намеснік, старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі, які кандыдуе ў паслы, а таксама паслы цяперашняй кадэнцыі Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі. Быў Міхась Хмялеўскі, які падпісваў сваю кніжку „І так бывае" (прадаў 10 экземпляраў).

У мастацкай частцы выступілі: „Каласкі" і „Зубры" з Беластока, калектыў „Любашкі" з Дабрывады і мясцовы маладзёжны калектыў „Leśne Skrzaty".

Найбольшую папулярнасць заваяваў калектыў „Сябры" з Беларусі пад кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі. Доўгія і бурныя апладысменты сведчылі, што канцэрт гледачам вельмі спадабаўся.

Так вось праходзілі кляшчэлеўскія святкаванні. Пачатак быў добры. Арганізатарам жадаем наступных поспехаў.

**Уладзімір Сідарук**

# Запусціліся

У суботу 9 жніўня ў Бельску прайшоў вялікі фэст, сарганізаваны агульнапольскім радыёвяшчаннем. У вясёлых гульнях бяльшчан, пры пасрэдніцтве вельмі папулярнай перадачы „Lato z Radiem", удзельнічала ўся Польшча.

Але для Бельска, аказваецца, адзін дзень забавы — замала. Наступнага дня, пасля абеду, жыхары горада прыйшлі тлумна ў гарадскі амфітэатр. Там, другі год запар, „Спасаўскія запусты" збіраюць усё мясцовае беларускае асяроддзе. Як арганізатары фэсту сёлета згодна пералічваліся: Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Звяз беларускай моладзі, Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" і Этнаграфічны музей у Студзіводах. Мерапрыемства праводзілася ў рамках культурнай праграмы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа".

Фэст праходзіў у яркім жнівеньскім сонцы. Пачаўся абрадавай сцэнай „Жытняя талака", якую з дзецьмі ў Бельскім доме культуры падрыхтавала Альжбета Тамчук. Пасля выступалі: калектыў „Красавік" з Менска, мясцовыя „Дзявочыя ноткі", „Маланка" і „Васілёчкі", гасцінна эстрадны гурт „Зубры" з Беластока і фолькавы „Чарамшына" з Чаромхі, а завяршылі канцэрт — ужо на сыходзе дня — рок-гурты „Eine Klakson" і „The Dwery".

„Спасаўскія запусты" задаволілі самыя розныя музычныя густы. Добра былі яны таксама забяспечаны беларускай гістарычнай літаратурай і півам „ЕВ". А вось, што тычыцца паслоў і кандыдатаў у паслы — было слабавата. Прысутнічаў толькі бяльшчанін Яўген Вапа, які, дарэчы, з'яўляўся і суарганізатарам мерапрыемства.

**(ак)**

Да „Спасаўскіх запустаў" была створана спецыяльная песня, якую на сцэне адспявалі супольна ўсе артысты. Музыку напісаў Алег Залётнеў, а словы — Сяргей Макарэй:

*Чароўны ранак, сонечны прамень,*
*Над старажытным Бельскам*
*новы дзень.*
*Гамоняць птушкі, шэпчуць каласы,*
*— Ці чуеш? — Гэта продкаў галасы.*

*Жураўлінымі крыламі песня*
*ўдалеч ляціць,*
*Над багатымі нівамі, дзе наш дом,*
*дзе нам жыць.*
*Дзе стагоддзямі прадзеды плён*
*збіралі з палёў,*
*Талаку дружна ладзілі,*
*сустракалі сяброў.*

*Ласкае вечар вечнасці званы,*
*Крыніцаю жывой звіняць яны.*
*За мой народ, за Бельскую зямлю,*
*Магутны Божа, я Цябе малю!*

*Жураўлінымі крыламі сэрца*
*ўдалеч ляціць...*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Спелы адпачынак


*Удзельнікі летніка.*

**Чакалі цэлы год**

Супрасль, турыстычны асяродак „Пушча". Удзельнікі летніка загараюць на сонцы. Іншыя шпацыруюць па наваколлі. Над палямі разносіцца пах спелага збожжа. Дзе не глянеш — свежыя, прывабныя краявіды.

— Добра тут адпачывацца, — кажа шасцікласніца Аля Асташэвіч.

— Рэчка цёплая і чыстая, паветра свежае, надвор'е як на заказ. Ну і цікавыя заняткі.

Юстына Вышкоўская прыехала з сястрычкай, другакласніцай.

— Мама нас адправіла, бо вядома было, што тут будзе добра.

— Юстына і Аля былі ўжо на такім летніку ў мінулым годзе.

— А як прыехалі дахаты, доўга яшчэ ўспаміналі. І цэлы год чакалі чарговага летніка.

Марыся і Ілья Матрунчыкі з Менска таксама пастаянныя ўдзельнікі праваслаўна-беларускіх летнікаў, якія ад пяці гадоў арганізуе Дарафей Фіёнік.

**Праваслаўная сям'я**

На доміку апекуноў лунае беларускі лозунг „Дзіцячы летнік". Сярод удзельнікаў сустракаю карэспандэнтаў „Зоркі".

— Пасля дашлем вам цікавейшыя малюнкі, — кажа апякун мастацкай групы Алег Кабзар, заварожаны Супраслю. — Тут такая містычная атмасфера. І дзеці вельмі добрыя.

Асяродак „Пушча" пабудаваны якраз ва ўрочышчы „Пустыня". Ёсць нават меркаванні, што ў гэтым месцы сяліліся пустэльнікі-манахі з мясцовага манастыра.

— Мы тут як адна сям'я, — кажа Дарафей Фіёнік. — Мэтай такіх летнікаў з'яўляецца наладжанне хрысціянскай супольнасці. Дзеці вучацца ветлівасці, адказнасці за сябе і іншых. Праўда, у групе пануе зразуменне і хрысціянская дабрыня.

— Наш летнік наладзілі ў днях 5—15 жніўня невыпадкова, — кажуць апекуны. — Якраз у „Пушчы" праходзіць летнік праваслаўнай моладзі з Сындэсмасу. Для дзяцей добра пабачыць праваслаўных з Амерыкі, Грэцыі ці Расіі. Ну і якраз выпадае свята Супрасльскай Іконы Божай Маці.

Звычайны дзень пачынаецца малітвай. Пасля снедання ўдзельнікі чытаюць Біблію. Дзеці разумеюць пачутае, бо карыстаюцца беларускім перакладам.

**Тэатр пры парафіі**

Праграму летніка ўзбагачаюць тэатральныя і мастацкія заняткі.

— Гэта працяг той дзейнасці, якую вядзем пры парафіі, — кажа Дарафей Фіёнік.

У сакавіку ягуштоўскія школьнікі паставілі „Кліканне вясны". Пазней імі пацікавілася Гданьскае тэлебачанне.

— Зараз рыхтуем фальклорны спектакль „Хрэсьбіны" і пастаноўку „Паэтычнае Ягуштова".

— Я раней і не чула хрысціянных песень, — кажа Аня Навіцкая.

Песні прабабак вельмі ёй спадабаліся.

— Бо яны маюць вялікія духовыя якасці. Хопіць некалькі слоў паяснення, каб дзеткі палюбілі такі рэпертуар, — кажа Дарафей Фіёнік.

Тут трэба дадаць, што школьнікі з Ягуштова вывучаюць якраз песні, запісаныя Міколам Навіцкім у Ягуштове. Дзеці спяваюць таксама ў царкоўным хоры.

Пастаноўка „Паэтычнае Ягуштова" будзе аснаваная на творчасці паэтаў родам з гэтай мясціны — Надзеі Артымовіч, Юркі Плютовіча, Вольгі Анацік і Ані Хадакоўскай.

**Дзецям падабаюцца заняткі**

Аля Асташэвіч прыгожа чытае на старажытнацаркоўнаславянскай мове.

— Мае бацькі рады, што ўмею чытаць свае малітвы, — кажа дзяўчынка.

Аля і энтузіястка беларускай мовы, і выдатная дэкламатарка, і карэспандэнтка „Зоркі". Таксама і Марцін Канаховіч, васьмікласнік з бельскай „тройкі", добра размаўляе па-свойму. Марцін спявае ў маладзёжным хоры пры Уваскрэсенскай царкве.

— Мае бацькі з Ягуштова, таму ведаю сяброў здаўна, — кажа.

На летнік прыехаў, бо падабаюцца яму заняткі з Дарафеем Фіёнікам.

— Тут не толькі адпачываем, але і многаму можам навучыцца, — кажуць дзеці.

Сапраўды, творчы адпачынак намнога цікавейшы за звычайныя традыцыйныя летнікі.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*


*Рэчка, свежае паветра, сонечнае надвор'е.*

## Тры „разумныя" галавы

*(англійская казка)*

Жылі калісьці на свеце фермер з жонкай, і была ў іх адна-адзіная дачка.

Заляцаўся да яе нейкі джэнтльмен. Кожны вечар ён прыходзіў да іх у госці і заставаўся вячэраць.

Вось неяк спусцілася дачка па піва ў склеп, пачала цадзіць піва ў збан, узяла ды зірк на столь. А там у бэльку сякера ўваткнута. Яна ў бэльцы, напэўна, даўным-даўно тырчала, ды раней ніхто яе не заўважаў. І вось пачала дачка думаць: „Не на дабро тут гэтая сякера тырчыць. Вось пажэнімся мы, і будзе ў нас сынок. Вырасце ён вялікі, спусціцца ў склеп па піва, як я цяпер, а сякера раптам упадзе яму на галаву і заб'е. Гора ж якое будзе!"

Паставіла дзяўчына на падлогу свечку і збан, села на лаўку і пачала плакаць.

А наверсе думаюць: што здарылася? Чаму яна так доўга цэдзіць піва?

Сышла ў склеп маці. Бачыць: сядзіць дачка на лаўцы і заліваецца слязамі, а піва перапоўніла збан і ўжо цячэ па падлозе.

— Чаго ты плачаш? — пытаецца маці.

— Ах, мама! — кажа дачка. — Ты толькі зірні на гэтую жахлівую сякеру! Вось пажэнімся мы, будзе ў нас сынок, вырасце ён вялікі, прыйдзе па піва, а сякера раптам упадзе яму на галаву і заб'е. Гора ж якое будзе!

— Ах, Божа, вялікае будзе гора! — згадзілася маці, села побач з дачкой і таксама залілася слязамі.

Трохі счакаўшы і бацька затрывожыўся: чаго гэта, думае, яны так доўга не вяртаюцца? Пайшоў у склеп паглядзець, куды гэта яго дачка з жонкай прапалі. Спусціўся, бачыць, сядзяць абедзве і плачуць у тры ручаі, а піва па падлозе цячэ.

— Чаго гэты вы равяце? — пытаецца.

— Ды ты толькі паглядзі на гэтую жахлівую сякеру! — кажа маці. — Ну, як наша дачка выйдзе замуж, і народзіцца ў яе сынок, і вырасце ён вялікі, і спусціцца ў склеп па піва, а сякера раптам упадзе яму на галаву і заб'е яго. Вось гора будзе!

— Божа мой! І праўда, якое гора будзе! — сеў побач з імі бацька і таксама расплакаўся.

Але вось і джэнтльмену надакучыла сядзець аднаму на кухні, і ён таксама спусціўся ў склеп паглядзець, што здарылася. Бачыць: сядзяць усе трое ўпобачкі, плачуць-заліваюцца, а піва з крана цячэ, па ўсёй падлозе расцякаецца. Кінуўся ён да бочкі, закруціў кран і пытаецца:

— Што здарылася? Чаму вы тут седзіце і плачаце? Хіба не бачыце — піва ж у вас па ўсёй падлозе разлілося?

— Ох! — кажа бацька. — Ды вы толькі паглядзіце на гэтую жахлівую сякеру! Што, калі вы з нашай дачкой пажэніцеся, і будзе ў вас сынок, і вырасце ён вялікі, і спусціцца ў склеп па піва, а сякера раптам упадзе яму на галаву і заб'е яго!

І ўсе трое пачалі плакаць яшчэ мацней. А джэнтльмен засмяяўся, вырваў сякеру з бэлькі і кажа:

— Нямала я паездзіў па свеце, але такіх „разумных" галоваў ні

**Летнія прыгоды**

# Мая сустрэча з канём



Сёлета я адпачывала на возеры Вігры.

Аж у сэрцы нешта закалацілася, калі я прачытала аб'яву на дзвярах сталоўкі ў Гаўрых-Рудзе, што ў суседнім Плацічне вядзецца ў новай стадніне навучанне язды на кані.

Я вельмі люблю плаваць, але ўжо крыху надакучыла пераплываць Ставок туды і сюды. Аднойчы зрабіла я сорак „басейнаў". Вось конь, гэта штосьці!

Дзедка сказаў мне адразу: „Едзь! Я ў шэсць гадоў ужо ездзіў, ды без сядла!" А бабуля баялася, што я звалюся. Тады дзедка яе „супакоіў": „Як я аднойчы зваліўся, дык два дні быў амаль непрытомны. Ужо ўсе думалі, што я паламаў сабе хрыбет, але хто ж бы тады знайшоў дзе лекара да вясковага дзіцяці... А пасля ўстаў і зноў паехаў".

Бабуля згадзілася толькі тады, калі даведалася, што вучаць ездзіць паступова: спачатку інструктар водзіць каня на повадзе, пасля падчапляе да вупражы лонжу — доўгі пас і сам стаіць у сярэдзіне, а конь з ездаком ходзіць па крузе на гэтай лонжы. І толькі тады, калі яздок ужо добра адчувае сябе ў сядле, яму дазваляюць ездзіць самому.

Мы вырашылі хадзіць у стадніну разам з дзяўчынкай з Варшавы — Агнешкай Якубяк, якая таксама перайшла ў сёмы клас. А там нас адразу пасадзілі на коней — мяне на Джэніфэр, а Агнешку на Горку — і загадалі адразу „anglezować", адным словам, падскокваць на кані, калі ён ішоў рыссю па манежы.

З гэтым то я дала сабе рады, бо ўжо патрэніравалася „насуха" (я бачыла, як гэта робяць жакеі), але найгорш было на тую Джэніфэр узлезці. Мяне падсаджваў спачатку інструктар.

Я не ведала раней, што жакейскія шапачкі выконваюць ролю каскаў. Яны цвёрдыя і ахоўваюць галаву пры ўпадку. А я думала, што іх надзяваюць дзеля прыгажосці...

Пасля першай язды мне ўсю ноч сніўся конь. Спачатку ён здаваўся мне вялізнай, недаступнай жывёлінай. Было страшнавата. Аднак, калі я паездзіла крыху, мне паказаўся ён вялікім, мілым, сімпатычным сабачкам. Ён мяне вёз, а я сядзела на ім!

Вяртаючыся з язды, я пахла канём. Бабуля гнала мяне мыцца, а мне гэтыя пахі былі мілыя, дык я не спяшалася да вады. Штоноч я будзілася і пыталася, ці будзе раніцай пагода. Ездзіла я сістэматычна, штодзень. Спачатку па пятнаццаць мінут, пасля — па паўгадзіны, а тады ўжо па гадзіне. З-пад шапкі ліўся пот, але я не зважала на гэта.

На пяты дзень мой інструктар Пшэмык (яго называлі там Пшэмэк), вучань трэцяга класа Эканамічнага ліцэя ў Сувалках і ездзіць на конях ужо пяць гадоў, дазволіў мне паехаць адной. Спачатку я ездзіла па крузе, а пасля папрасіла, каб мне дазволілі паехаць па вялікім абшары. Было прыемна сесці на каня, адчуваць, як ён нясе цябе, як слухаецца...

Але і конь мусіць мець сімпатыю да ездака. Адну дзяўчынку конь так страсянуў, што яна вылецела з сядла і страмёнаў. Дзякуй Богу, што зачапілася неяк за грыву. Конь любіць ласку. Трэба прыйсці да яго ў стайню, пагаварыць з ім, перад яздой пагладзіць яго па пысе, па храпах, а калі сядзеш на яго — пашлёпаць далікатна па шыі.

Усе коні ў гэтай конегадоўчай гаспадарцы былі англа-арабскай расы. Я ездзіла на Джэніфэр і Бізнесе, але больш любіла Джэньку, як яе тут называлі. Прыгожая!

Цяпер на вёсках коней замянілі машыны. Таму ўсё больш іх трапляе ў стадніцы ў якасці спартыўных коней.

**Адрыяна Семянюк, Беласток, ПШ № 9**

## Польска-беларуская крыжаванка № 34

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Zamieszanie | ▼ | Olbrzym | | Rota | ▼ | 📖 |
| | | Kałmyk | Ocean | Liniowiec | | |
| ▼ | | ▼ | ▼ | ▼ | | |
| Rokita | ► | | | | | |
| Glina | ► | | | | | Rak |
| ► | | | | | Chomik | ▼ |
| ► | | | | | | |
| Trójnóg ► | | | | | | |

разу не сустракаў! Цяпер ізноў пайду падарожнічаць, і калі сустрэну трох такіх, што яшчэ дурнейшыя за вас, то вярнуся і ажанюся з вашай дачкой.

Пажадаў ім усяго добрага і пусціўся блукаць па свеце.

...Ідзе ён, ідзе, падыходзіць у адной вёсцы да канцавой хаты. Бачыць: прыстаўлена лесвіца, а гаспадыня прымушае карову лезці па гэтай лесвіцы на дах — дах як ёсць увесь травой зарос. Вось гаспадыня і надумалася там сваю рагулю пасвіць. А бедная жывёліна ўпіраецца, не хоча на дах лезці.

— Што ты робіш?

— А ты не бачыш? — здзівілася гаспадыня. — Глядзі, якая на даху густая трава. Чаго гэтай гультайцы тут шмаццё збіраць, пасвілася б на даху!

— А калі яна зваліцца?

— Не зваліцца! Я ёй вяроўку на шыю накіну, а канец у комін ды сабе на руку наматаю. Будзе падаць, адразу пачую!

— Ну і дурная ж ты, гаспадыня! Скасіла б траву на даху ды кінула б карове!

— Яшчэ касіць! — усміхнулася гаспадыня. — Сама сябе накорміць! — І зацягнула ўсё-такі карову на дах.

Паглядзеў-паглядзеў джэнтльмен на гэты цуд ды і пайшоў сваёй дарогай. Не паспеў да другога дома дайсці, як карова з даху ўпала і павісла на вяроўцы, а гаспадыню ў комін уцягнула. Карова ў пятлі задыхнулася, а гаспадыня ў коміне загразла, уся ў сажу запэцкалася.

Пайшоў ён далей. Ішоў, ішоў, пакуль не дайшоў да прыдарожнай гасцініцы, дзе і надумаўся пераначаваць. Народу было ў гасцініцы дужа багата, і яму дастаўся пакой на дваіх.

Яго сусед быў слаўны хлопец, і яны хутка пасябравалі. Раніцай пачалі апранацца, і вось джэнтльмен бачыць: падышоў яго сусед да камоды, павесіў на ручкі скрыні свае штаны, а сам як разбяжыцца і — скок! Ды міма, не трапіў нагамі ў калашыну. Зноў разбегся — і зноў міма скочыў. А джэнтльмен стаіць і гадае: што гэта той задумаў?

Нарэшце хлопец спыніўся і пачаў хустачкай твар выціраць: стаміўся, спацеў!

— О Божа! — кажа. — Бяда мне з гэтымі штанамі — якая нязручная вопратка! Розуму не дабяру, і хто іх толькі выдумаў! Кожную раніцу бітая гадзіна праходзіць, пакуль у іх пацэліш. Аж запарыўся! Ну, а вы як са сваімі спраўляецеся?

Джэнтльмен зайшоўся ад смеху. Пасмяяўся ўволю, потым паказаў хлопцу, як трэба штаны нацягваць. Той доўга дзякаваў яму і пераконваў, што сам ніколі б не скеміў.

І джэнтльмен зноў выправіўся ў шлях. Падышоў да другой вёскі. А там ля сажалкі сабраўся натоўп. Мацаюць у вадзе — хто мятлой, хто граблямі, хто віламі.

— Што здарылася? — спытаў джэнтльмен.

— Жахлівае няшчасце! — адказалі яму. — Месяц у сажалку ўпаў. Ловім яго, ловім — ніяк не вылавім!

Засмяяўся джэнтльмен і параіў шукаць месяц не ў салажцы, а на небе, бо ў вадзе толькі яго адбітак. Але сяляне і слухаць не захацелі, так насварыліся, што ён паспяшаўся ўцячы жывым і здаровым.

Вось і даведаўся ён, што на свеце дурняў нямала, і многія яшчэ дурнейшыя, чым яго нарачоная і яе бацькі, і джэнтльмен вярнуўся дамоў і ажаніўся з фермерскай дачкой.

І калі яны пасля гэтага не зажылі шчасліва, то хто-хто, а ўжо мы з вамі тут ні пры чым.

# Якуб Колас быў высокі і здаровы

**Ян Стома, сёння жыхар Альхоўкі, што ў Нараўчанскай гміне, нарадзіўся ў 1907 годзе ў Мікалаеўшчыне, у якой калісь нарадзіліся і бацькі Якуба Коласа. Вось яго ўспаміны.**

Помню Якуба Коласа. У сапраўднасці ён называўся Міцкевіч, аднак мусіў мяняць прозвішча, бо яго праследавала паліцыя. Ён заснаваў нейкі гурток, які палітыкай займаўся, і яго паліцыя злапала. Бацька яго быў леснікам, жылі яны ў Акінчыцах, а пасля ў Альбуці. Было ў яго два або тры браты, жылі з зямлі, а пасля недзе выехалі, хіба ў Мінск. Сам Якуб Колас быў мужчынам высокім, здаровым, добрым да людзей. Быў ён настаўнікам, ды і з настаўніцай ажаніўся.

Як настала Польшча, правялі па Нёмане каля Мікалаеўшчыны дзяржаўную мяжу; бліжэй тады з Мікалаеўшчыны да граніцы было, чым цяпер з Альхоўкі. Спачатку нашы сенажаці пад Польшчай былі, войска там коням траву касіла ды і мы за Нёманам кароў падпасалі, а пасля трох гадоў перадалі саветам. А нам бяда, бо каровы прывыклі, ано ў ваду і за тую граніцу ўцякалі. Раз вясною, яшчэ снег не растаў, мае каровы на той бок пераправіліся. То я ўсё з сябе, толькі ў адной кужэльнай сарочцы за імі паплыў. А вада на вясне быстрая, загнала мяне далёка. Каб быў і тую сарочку скінуў, то лягчэй было б; а так толькі фу-фу і фу-фу ў вадзе, плысці не давала. А кароў было тры штукі, страх, каб не прапалі, бо саветы кароў не аддалі б. І так я і змучыўся, і спалохаўся, што ўжо назад сам не даў рады плысці, толькі за каровін хвост учапіўся і так прыгнаў іх дахаты. А раз нашы коні перайшлі мяжу, то саветы іх забралі і не аддавалі; бяда. Польскія пагранічнікі кажуць: мы вам скажам, калі саветы будуць рыбу глушыць і коней пусцяць. Кінулі саветы гранаты ў рэчку, рыба выплыла і яны за тою рыбаю адышлі; далекавата. То мы за іх коней і да сябе. Ну і яны прывялі нашых коней, якія ўжо ў калгасе былі.

Граніцу пільнавалі, але польскія пускалі спекулянтаў, як далі... Але і лапалі іх! Раз прыехала такая бы камісія, незнаёмыя, і кажуць: мы хочам пераехаць на той бок. Пару злотаў пагранічнікам далі і тыя пусцілі. Дайшлі яны да паловы ракі, вяртаюцца, скідаюць накідкі і адразу тых пагранічнікаў з пастарунка здымаюць!

Спачатку рускія прывязвалі чырвонцы да палачак і да нас перакідалі. А мы ім гарэлку. Гарэлкі ў іх тады не было, але грошай і золата было да халеры! А і з усім там было цяжка, і з адзежай, і з ежай, і з гарэлкай. Пасля пачалі яны нам заміж чырвонцаў ґузікі кідаць. То мы ім заміж гарэлкі — ваду! Бо зразу ў іх, так як і ў нас, золата хадзіла, але пасля жыды сцягнулі, сцягнулі, і прапала.

Як мне споўнілася дваццаць адзін год, бралі ў войска, але не ўзялі, толькі далі катэгорыю „цэ". То я выбраўся ехаць у Францыю на заробкі. Адзін транспарт з Баранавіч адышоў, а на другі аставалася чакаць яшчэ два тыдні. То я рашыў на той час паехаць да сястры. А сястра была калісь выйшла за салдата, які ў нас тры гады служыў. Яго перавялі ў другую часць, і яна хацела ехаць за ім. Але жанчынам нельга з войскам. То той муж усадзіў яе ў мяшок, каб так забраць. Транспарт прыйшоў, ён сеў на поезд і паехаў, а жонка асталася. Адбыў ён войска і вярнуўся да бацькі, а той кажа: ну, сынок, адслужыў войска, пара жаніцца. А я ўжо жанаты, адказвае ён бацьку. Ну дык едзь і прывозь тую сваю жонку, хай жыве разам, сказаў бацька. І паехала яна за ім у Альхоўку.

І вось я тады, заміж у Францыю, прыехаў у Альхоўку. Сястра кажа: чаго ехаць за граніцу, тут у пушчы ёсць што зарабіць, і тут заробіш. Ну і так я астаўся. Год пабыў і купіў сабе ровар, нямецкі, Дзюркоп. Ад Вайцяхоўскага, што на Леснай жыў. Вайцяхоўскі кавалерам быў і толькі год ровар вытрымаў: той прыйдзе — дай, другі прыйдзе — дай; адбою яму не было. Сказаў: а ну яго, той ровар, прадам! Я дачуўся і хутка да яго. Прадаў ён мне за трыста злотаў, а новыя былі па чатырыста. Я тады ў лесе працаваў, зарабляў па два злоты ў дзень. У Альхоўцы тады толькі тры ровары былі: у Вані Дзям'янавага і ў Петручковых два, мой быў чацвёрты, а пасля ўжо было штораз больш і больш. Паехаў я зараз тым роварам у Мікалаеўшчыну; там яшчэ ў нікога ровара не было! Туды ехаў два дні: сцежкамі ў Ялоўку і Нясцібава, а далей шашою Беласток—Баранавічы, жвіроўкаю. Назад ехаў толькі паўтара дня, яшчэ на Юр'я ў Семяноўку ўспеў. У Мікалаеўшчыне ўзяў метрыку і тут ажаніўся. Стары даў палоску поля, працаваў яшчэ крыху ў лесе, крыху на вузкакалейцы, крыху кароў пасвіў; абы пражыць.

Як прыйшоў немец, то нашу вёску спаліў, усё пустое было, а нас вывезлі ў Подваркі, а адтуль хто куды хацеў. То мы ў Новай Волі былі. Там адна гаспадыня мела каня, і я стаў крыху рабіць. Яе чалавека бомба разарвала, а яна на Спаса яблыкі рвала і ўпала, і таксама без ног стала. Пачаў мяне немец на шашу ў Гарадок ганяць, каменне вазіць. Людзі кажуць каб у іх авечкі пасвіць, а не ў Гарадок хадзіць. Гаспадыня кажа: як не хочаш зямлі рабіць, то выходзь з хаты, то другі хто прыйдзе. Я знайшоў сабе хатку, перабраўся і стаў тыя авечкі пасвіць. Кошыкі плёў. Раз так авечкі ходзяць, а я зайшоў у карчы *хлюбы* вырэзваць. Бачу: там ляжыць у валёнках адзін, там другі... Партызаны! Я памаленьку назад, не аказваўся, бо ж бяда; за авечак хутчэй і ходу! А яны ў тых карчах перасушваліся. А як ужо фронт наступаў, немцы ў савецкае адзенне перабраліся, прыйшлі да мяне і кажуць, што фронт падыходзіць. І, што я адкажу, чакаюць. А я кажу, што мне ўсё роўна — усё спаленае, пасу авечак, кусок хлеба зараблю і мне добра будзе. А яны, што яны партызаны. А я, што мяне партызаны не цікавяць; я сабе кошыкі плёў, а ім нічога не плёў. І пайшлі яны да солтыса і кажуць яму: але пастух ваш *цваны*, нічога не выссалі ад яго. Немцы, калі адыходзілі, брук зааралі, каб саветы так хутка іх не перлі.

Пасвіў я авечак з аднае паловы вёскі, а з другое паловы ў другім пагоне пасвіліся. Авечак тады ніхто не краў, як цяпер гэта бывае. Нават воўк не падходзіў, бо на полі, здалёк ад бярэзіны і хваіны хадзілі. Як ішоў фронт, то авечак пакідалі і адны пасвіліся. У мяне авечка была, то адзін савет злавіў яе *шыцікам* за шыю, але яна яму вырвалася і так з тым *шыцікам* хадзіла. Крыху авечак саветы пабралі, а пасля і кароў бралі.

Яшчэ як немец ішоў, прыгнаў стары да мяне карову з Нараўкі, бо ў Нараўцы хацелі забраць. І я тую карову адводзіў назад, увосень, ужо дзень малы быў. Я пакуль яе тудысюды, то мне ўжо ў Сушчы сцямнела, агні ўжо ў хатах гарэлі. А тут з гарымоўскага лесу немцы! Добра, што сабакі не было. Я ўбок, немцы пераехалі. Маглі ж карову забраць, або і мяне расстраляць.

Пасля вайны перабраўся я ў Нараўку, там стары жыў. Назапасіў дрэва на хату і зноў у Альхоўцы пабудаваўся. І сюды вайна вярнулася яшчэ раз. 13 мая 1951 года завітала ў вёску вялікае гора: знайшлі альхоўскія хлопцы снарад і ў агонь укінулі. Трах забіла адразу, а сыну асколак зачапіў галаву, і рука, і нага асталіся безуладныя.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Каб толькі спакой быў

**Пра жыццё ў час бежанства і пазней расказвае Іван ДРУЖБА — 87-гадовы жыхар вёскі Крывятычы, што ў Арлянскай гміне.**

Свайго бацьку Ігната не памятаю, бо было мне ўсяго чатыры гады, калі ў 1914 г. забралі яго ў рускае войска, адкуль ён і не вярнуўся. Мая маці Марфа вяла потым пошукі і атрымала з палка паведамленне, што бацька загінуў на фронце. Прыслалі ёй дакументы і тры рублі. У ваенную завіруху дакументы дзесьці прапалі і ніякай пенсіі па бацьку мы не дасталі.

У бежанства выехала ўся вёска Крывятычы. З нашай сям'і паехалі дзяды, маці, шасцігадовая сястра Аксіння і я — пяцігодак. Ехалі мы на фурманцы запрэжанай у пару коней. Каля Карыцскаў маці прыпомніла, што нечага забылася і вярнулася ў вёску. А там былі ўжо рускія салдаты. Гаварылі яны, што гэта няпраўда, што немцы адрэзваюць жанчынам грудзі і намаўлялі вяртацца ў вёску. Маці не паслухала салдат і мы ехалі на фурманцы дакуль было можна. Потым трэба было пакінуць воз і коней, сесці ў цягнік, затым перасесцыся на параход. У канцы апынуліся мы ў Ашхабадзе. У гарачым клімаце часта паміралі малыя дзеці і бацькі сталі прасіць начальства адаслаць бежанцаў у больш халодны рэгіён Расейскай імперыі. Ахвотных перасяліцца перавезлі ў сяло Крыжым Вольскага ўезда Саратаўскай вобласці. Была гэта вялікая вёска — паўтары тысячы двароў, пошта, мясцовая адміністрацыя, царква. Бежанцам не далі работы і прыйшлося жабраваць. Мясцовыя людзі прыносілі нам хлеб і малако. Свіней там не гадавалі, затое многа было быдла і авечак.

Паслалі мяне ў школу, але аказаўся я няздольным вучнем і кінуў хадзіць на ўрокі. Вучылася толькі сястра. У рэвалюцыю прыйшлі два няўраджайныя, засушлівыя гады. Людзі мерлі з голаду як мухі. У Расеі памерлі мае дзяды і дзядзька.

З бежанства ў Крывятычы вярнуліся мы з сястрой і маці ў 1922 годзе, перад Пятром і Паўлам. Наша хата была спалена. Іншыя дамы былі аграблены. Маці нанялася на работу аж у Карыцскі, дзе жыла ейная цётка. Бывала, як пойдзе пешшу ў панядзелак раніцай, то вернецца аж у суботу вечарам. А мы, дзеці, чакалі яе з нецярплівасцю, бо тады прыносіла нам хлеб. Трохі пахадзіў я ў школу, але неўзабаве маці паслала мяне пасвіць кароў у людзей. Не мелі мы свайго дома і маці была вымушана прадаць паўдзесяціны поля, каб купіць у Карыцскіх кавалак старой каморы. Далажылі мы кавалак недагарэлага свірна і хляўчука ды паставілі з гэтага матэрыялу хацінку з сенцамі. Хату, у якой цяпер жыву, паставіла маці пазней.



У 1930 годзе я ажаніўся. Жонка паходзіла з Лазіцаў, што каля Арэшкава. Мелі мы дзве дачкі і чацвёра сыноў (двух ужо памерлі). Спачатку працаваў я на гаспадарцы, але ў 1939 г. саветы прызвалі мяне ў армію ў Ядвабнае каля Ломжы і я ў гэтым яўрэйскім гарадку тры месяцы працаваў пры будове аэрадрома. Восенню 1940 г. прынялі ад нас ваенную прысягу і завезлі аж у Лунінец, але пасля двух месяцаў адпусцілі дамоў.

Пры немцах, можна сказаць, на вёсцы не было ні дрэнна, ні добра. Было б зусім добра, калі б не мясцовыя „сабакі", якія выслужваліся немцам.

Пасля вайны працаваў я ў Бельску пры будове рашарні — льноапрацоўчага завода. Потым чатыры гады разгружаў вагоны на чыгунцы. Урэшце вярнуўся я на гаспадарку. Было ў мяне пасля камасацыі сем гектараў. Жылося ўжо нядрэнна, але ў 1966 г. памерла жонка, пакінуўшы двое малалетніх дзетак. Тады сітуацыя зноў ускладнілася, а калі аддаваў дачку замуж, то так запазычыўся, што пяць гадоў пасвіў кароў людзям у вёсцы, каб пагасіць даўгі. Каб не мяшаць жанатаму сыну ў самастойным гаспадаранні, наняў я кватэру ў Гайнаўцы і пяць гадоў працаваў сторажам на тамашніх заводах. Калі мне скончылася семдзесят гадоў, перадаў я зямлю сыну, а сам атрымаў пенсію за працу ў дзяржаўных установах.

Цяпер жывецца добра, як кажуць „жыві і не ўмірай". Магазін даслоўна пад бокам, ёсць грошы і ў хаце не пуста, маю ў што апрануцца. Больш нічога старому чалавеку не трэба. Каб толькі спакой быў і здароўе.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

Якія мы людзі

# Каюта

Пару гадоў таму назад мы нарэшце выбраліся ў гістарычную краіну — Грэцыю, дзе ўжо, пэўна, пабывала, як мінімум чвэрць насельніцтва нашай краіны.

Сёння ехаў туды ўжо хто? — Дурань, або надта багаты чалавек. Яшчэ гадоў дзесяць таму той, хто праехаўся ў Грэцыю, вяртаўся амаль мільянерам. „Ішло" там, казалі, дасло ўна ўсё, што можна было купіць у польскіх крамах. Ды не таму, што нашы тавары былі тыпу „люкс", а таму, што ў адносінах да цаны долара былі яны надта танныя. Адтуль „турысты" вярталіся, такім чынам, з поўнымі кішэнямі танных для іх доляраў або — яшчэ больш карыснымі ў гэтых адносінах — футрамі.

Сёння, здавалася мне, ехаў у Грэцыю або дурань, або бізнесмен. І для аднаго, і для другога грош налева ці направа — гэта было без значэння. Аднак жа „орбісаўскі" аўтобус, які вёз нас проста з Беластока ў далёкую, запаветную краіну, перапоўнены не быў. На вока, заставалася яшчэ месц дваццаць свабодных.

Вунь чалавек, што сядзеў перада мной, аж распеpазаўся. Яго вялізны жывот выліўся на ногі, сведчачы пра яго новабагацкі дабрабыт. Дзіва! На кожным прыпынку чалавек купляў цэлыя ахапкі піва, віна і рознай рознасці. Крыху менш тоўсты за яго сынок, вучань першага класа ліцэя з завязанымі ззаду ў хвосцік валасамі, дапамагаў яму гэтае пітво не толькі несці, але і піць. Ужо ўсе ведалі, што гэты чалавек — уласнік бензастанцыі. Яго жонка, манікюрша, сядзела на месцы і спаглядала на ўвесь аўтобус звысока і з мінай прынамсі каралевы, балазе абвешанай на дарогу ледзь не каралеўскай біжутэрыяй.

Такі то пажыве! Аўтобус агарнула зайздрасць. І іншыя пачалі рабіць алкагольныя пакупкі, як толькі затрымаліся на нейкім паркінгу. Адзін перад другім. Хто купіць больш?! Якніяк, а мае чалавек грошы! Бедны не купіць.

У аўтобусе стаяў водар алкаголю. Тым, што не хацелі піць, было аж няёмка.

Пакуль даехалі да Італіі, з якой мы мелі плысці паромам у Грэцыю, усе ўжо ведалі, хто якое мае прадпрыемства, або па-моднаму: бізнес, ды яшчэ колькі ў каго працуе рабочых.

Адна пані пахвалілася (надта элегантная вопратка і біжутэрыя!), што ў іх працуе аж шэсцьдзесят чалавек. Я думаю! Прадукуюць машыны для сельскай гаспадаркі. Чалавек на момант адчуў сябе, быццам бы быў адным з іх наёмных рабочых, такі маленькі-маленечкі. Што ж ты зробіш, бюджэтны работнік гэта табе не прыватны прадпрыемец! Дзякуй Богу, што яны з другога канца Польшчы, а то і сустрэцца ў звычайным жыцці мо сорамна было б.

Але ж тут неўзабаве высветлілася, што і з Беластока ёсць такія ж, а як жа. Ну, можа крыху меншага фармату, але ж і маладыя яшчэ. Вунь хлопчыку іхняму ўсяго дзесяць, а дзяўчынцы — сем. У іх толькі пятнаццаць працаўніц. Швачкі! Шыюць адзенне для лавак на рынку, што збываюць свой тавар рускім. Ці не шкадуюць, што кінулі — абое — дыпломы вышэйшых школ у куток і прышываюць гузікі да блузак, складваюць іх, вывозяць тавар? — А грошы?! Дзе і калі зарабілі б яны на вілу, ды што ні кажы, на швейную — хаця пакуль невялічкую — фабрыку?! Хто б ім даў на такую паездку, чацвярым?!

Пакруціўшыся пару дзён па Італіі, мы ўжо ведалі, што панюся з Люблінскага шукае шыкарны абрус для салона ў новай віле (прадукуюць магільныя пліты, адно грузавік „Вольва" за — не памятаю, колькі — мільярдаў), а расфуфыраваная жонка чалавека з бруднымі пазногцямі (прадукцыя кветак), абвясціла на ўвесь аўтобус: няма лепшага самахода за „Таёту"!

Увесь іх маленькі свет клінам сышоўся на дастатку, аб якім марылі, відаць, доўгія гады і мары гэтыя нарэшце сталіся рэчаіснасцю. Яны дэманстравалі ўсім свае горшыя і лепшыя фотакамеры, фільмуючы ўсё, што трэба і не трэба, шчоўкалі фотаапаратамі і захапляліся, захапляліся ўсім, што бачылі.

— А вы, бюджэтнікі, за што сюды прыехалі? — спытала, не перапрашаючы, панюся ад магільных помнікаў, якая штораз грызла мужа, што выкінуў столькі грошай у балота, рашаючыся на такую паездку.

— А мы — за падручнік, што муж выдаў на Фларыдзе, — кажу. „Помнікі" і „кветкі" крыва ўсміхнуліся. І мелі рацыю! Яны мо пішуць такую кніжку — чужымі рукамі — штомесяц!

З багажнікам поўным алкаголю, закупленага па таннай цане ў рэспубліцы Сан-Марына, мы прыехалі ў Анкону — вядомы італьянскі порт на Адрыятычным узбярэжжы, адкуль ужо як рукой было падаць у доўгачаканую Грэцыю. Плысці будзем усяго дваццаць чатыры гадзіны — адны суткі. Зараз будзем у Патры, а там ужо Афіны, Карынф, Дэльфы, Спарта!

Падплыў гіганцкі, суперсучасны грэчаскі парам „Суперфаст", які адных аўтафургонаў змяшчаў аж дзвесце штук. Наш аўтобус паехаў на сваё месца, а мы з самымі неабходнымі рэчамі ўвайшлі на палубу. Радасна было, што нарэшце, пасля шматдзённай вандроўкі па Славакіі, Аўстрыі і Італіі чакае тут нас сутачны адпачынак у кандыцыянiраванай каюце, добры рэстаран ды басейн, у якім можна будзе паплаваць.

Усе сабраліся ў холе і ўжо пачалі пхацца далей, у калідор парома, аж грэцкі афіцэр ва ўсім белым, адным рухам рукі паўстрымаў натоўп і выклікаў толькі тых, хто заплаціў за каюту. Былі гэта: цёця з пляменніцай з Каліша (у цёці-эканамісткі — прыватная пякарня), самотная жанчына з Чанстаховы (крама з вопраткай), сям'я з чатырох асоб з Варшавы (будаўнічая фірма), мы (утраіх) і двое закаханых, пра якіх ніхто нічога не ведаў, але з вопыту мне было вядома, што не прызнаюцца людзі з бяспекі, ксяндзы і чужыя мужы з чужымі жонкамі.

Рэшта нашых спадарожнікаў начавала — праўда, на закрытай, — палубе на крэслах. Раніцай убачылі мы іх: перапацелых, раскудлачаных, змучаных, злосных. Нам у вочы яны нават не глядзелі. А заплаціць за каюту трэба было ўсяго два з паловай мільёна старых злотых за чалавека.

Век жыві — век вучыся! Відаць, быў гэта адзін са спосабаў на ўзбагачэнне: лішніх грошай не выкідай! Але адкуль жа нам, бюджэтнікам, было ведаць пра гэта? Ужо як ехаць — дык ехаць.

Ага, наш беластоцкі бізнесмен з дваімі малымі дзецьмі быў так знерваваны, што не супакоіўся, пакуль не дакупіў каюту на зваротную дарогу. Відаць, гэта ён баяўся сустрэцца з намі ў Беластоку. З тае каюты, калі вярталіся дахаты, яны і не вылазілі, купаліся там, спалі, адпачывалі.

А ў мяне тым часам паменшала комплексаў горшасці.

**Ада Чачуга**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры за 1996 год)***

Мы, дарастаючыя хлопцы, вельмі хацелі адгадоўваць модныя тады доўгія валасы, а Яраслаў Васільевіч не любіў такіх валасоў і не дапускаў на нашых галовах заводзіцца модным шавялюрам, няшчадна ганяючы нас да цырульніка. Мяне аднойчы, напрыклад, выганяў аж тры разы ў адным дні. За кожным паваротам абавязкова трэба было да яго явіцца на праверку. За трэцім разам паявіўся я прыбіты горам перад ім, а галава мая абцята-абстрыжана як булавенька. Замест пышнай шавялюры засталіся нейкіх тры кароценькія валасіны на галаве: дзве направа, адна налева, з разборачкай, значыць. Я чуць не плачу з жалю і крыўды, а мой дырэктар проста не налюбуецца маім выглядам.

За нашы правіннасці былі розныя кары. У цяжэйшых выпадках дырэктар патрабаваў прыйсці ў школу не толькі родным, але і хросным бацькам вінаўніка. Так балюча здымалі з нас грубы і цвёрды слой шурпатасці і непакорлівасці. Канешне, такія суровыя адносіны дырэктара былі толькі да вучняў пачатковых класаў ліцэя.

І не дзіва, што па ваколіцы проста легенды кружылі наконт выхаваўчых метадаў нашага дырэктара.

Не аставаліся ў даўгу, канешне, і самі вучні. Яны складалі вершы, песні пра дырэктара. Фрагменты адной такой песні-рыфмаванкі, складзенай на польска-руска-беларускай мове на папулярную тады мелодыю, я дасюль яшчэ помню:

*Dyrektor Kostycewicz*
*Szlachetne serce ma,*
*Gdy spotka na wagarach,*
*Кричит: — „Иди сюда!*
*Чего ты здесь шукаешь,*
*Плохой ты ученик?*
*А где твая фуражка?*
*Почему не чистишь черевик?"*
*И бедный наш проказник,*
*Со страха весь дрожа,*
*От директора втикает,*
*Как лошадь от бича...*

Пазней мы зразумелі, што Яраслаў Васільевіч з'яўляецца не толькі суровым дырэктарам, але і, можна сказаць, клапатлівым нашым бацькам. Усе яго дырэктарскія дзеянні былі падпарадкаваны аднаму — зрабіць з нас добрых, культурных, разумных, адукаваных людзей, і, канешне ж, свядомых беларусаў.

Бельскі беларускі ліцэй быў пад яго кіраўніцтвам своеасаблівай школай са свойскай атмасферай. У сценах яе гучала як польская мова, так і ўсе нашы мясцовыя беларускія дыялекты. Але ў ліцэі пазнавалі мы і беларускую літаратурную мову, беларускую літаратуру, гісторыю, заблытаную, але цікавую і багатую мінуўшчыну нашай мясцовасці.

Апрача духавога аркестра, у ліцэі быў вялікі хор з багатым беларускім рэпертуарам і танцавальны калектыў. З імі мы часта выступалі ў Бельску і цэлай нашай бліжэйшай і далейшай аколіцы. Нашы выступленні карысталіся вялікай папулярнасцю і славілі беларускі ліцэй і нашу беларускую культуру. І нас, і нашых гледачоў наглядна пераконвалі яны, што мы і наша беларуская мова і культура не горшыя ад культур іншых народаў.

Той час быў моцна атэістычным часам. І хаця ад дырэктара школы проста адміністрацыйна вымагалася выхоўваць моладзь у атэістычным духу, Яраслаў Васільевіч і ў гэтым сэнсе не зняслаўляў сябе нікалі, як многія іншыя нашы ўра-патрыёты. Мы ніколі не пачулі ад яго антырэлігійных выказванняў і ні перад кім не скрываў таго, што з'яўляецца ён моцна веруючым і праваслаўным.

Бадай не было такога Яна (парафіяльнае свята ў нашым Пасынскім прыходзе, за якіх 9 кіламетраў ад Бельска), каб ён на сваім старэнькім ровары не прыехаў туды і не памаліўся ў нашай царкве ды не сустрэўся з многімі сваімі знаёмымі каля храма. І гэта быў найлепшы прыклад нам, маладым. Я вельмі рады, што закончыў менавіта гэтую школу.

Наш дырэктар меў час даслоўна на ўсё: удзельнічаў у школьных і гарадскіх імпрэзах, наведваў урокі, пільнаваў дысцыпліну і парадак у школе, наглядаў за нашымі прычоскамі і гігіенай, лавіў прагульшчыкаў і разявак, хваліў заслужыўшых пахвалы і лаяў правініўшыхся.

Асаблівай увагай карысталіся ў нашага дырэктара абітурыенты, якія часта наведвалі сваю школу.

Пачынаючы ўжо з дзесятага класа Яраслаў Васільевіч праводзіў з намі і нашымі бацькамі гутаркі на тэму нашай далейшай жыццёвай дарогі. Дараджваў куды варта кіравацца пасля заканчэння ліцэя. І такія гутаркі нам былі моцна патрэбныя, бо ні ў нас, ні ў нашых бацькоў дастатковай арыентацыі ў гэтай справе не было.

Калі той, хто на яго думку павінен далей вучыцца, не складаў дакументаў у вышэйшую навучальную ўстанову, дырэктар сам мог прыехаць да яго дадому. З такой мэтай прыязджаў і да мяне ў вёску. Прывёз патрэбныя паперы, сказаў запоўніць іх, сам забраў іх і адправіў куды трэба.

Калі ж наведвалі школу выпускнікі, дырэктар вельмі ахвотна прымаў іх, абводзіў па будынку, расказваў пра школу і распытваў пра іх справы...

Расказваў даўно ўжо пакойны наш вясковы сусед Сямён Герасімюк, што ў час нямецкай акупацыі хтосьці нашрайбаваў на яго паклёпніцкі данос немцам. На аснове падобных даносаў многія нашы людзі траплялі ў нямецкія турмы, канцлагеры і гінулі. Яраслаў Васільевіч працаваў тады ў канцылярыі, бо быў высокаадукаваным чалавекам і ведаў нямецкую мову. У яго рукі траплялі часам і падобныя даносы. Падвяргаючы сябе і сваю сям'ю вялікай небяспецы, калі толькі мог, нішчыў такія даносы. Знішчыў, не прапускаючы далей, і данос на майго суседа, паведамляючы яго аб гэтым. Такім педагогам, дырэктарам і чалавекам быў наш паважаны Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч.

***(працяг будзе)***

**Анатоль СЫС**

**Цнатлівы князь**

Цнатлівы князь Беларушчыны
па Боскай міласці з нябёс —
князь! — з раю ў пекла быў адпушчаны.
Які там князь? — жабрак апушчаны,
з'явіўся з раю...
Вянок прынёс...
з валошак сініх,
на магілу
самазабойцы —
гэта ж грэх:
збіраць па крошках жыцця сілу
і... раскалоць, нібы гарэх.

І Ён быў князь, яго хавалі
галодным. Хоць бы хто паклаў
скарынку хлеба. Не паклалі
у дамавіну. Закапалі,
а ты Вянок яму паклаў.

Нібы ў ладзе — у дамавіне
твой любы Палуян паплыў
па моры-акіяне сінім
павандраваў — такім і быў.

Туга на сэрцы. Будзе восень.
Валошкі ў жыце ўсё зырчэй.
Зярняты падаюць з калосся,
а слёзы падаюць з вачэй.

Заплакаў князь, жабрак заплакаў.
Не плач. Бяздзетны і Хрыстос.
Паэзія — сам выбраў — плаха,
а ката з мечам выбраў лёс.

Спяшай! Пакуль твой кат на пласе
пляце удаўку з васількоў.
Паэзія цябе не адраклася.
Ёсць час!
Гарлянкай з ёю хлыне кроў,
Цнатлівы князь Прыўкраснай Беларусі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ужо вятры лагоднай сталі дзьмуць.
Вясна на носе. З цёплай Ялты гусі
твой светлы дух на крыллях прынясуць.

# Нашы карані

**CVI. Заўсёды верны Праваслаўю**

У 1633 г. памёр кароль Зыгмунт III Ваза, заядлы ганіцель Праваслаўя ў Рэчы Паспалітай, і на трон узышоў болей талерантны Уладзіслаў IV, які спыніў праследаванні праваслаўных, прызнаў Праваслаўную царкву і яе іерархію на чале з мітрапалітам Пятром Магілам. Якраз у той час ігуменам Яблачынскага манастыра стаў айцец Макарый Карніловіч — выдатны царкоўны і гаспадарчы дзеяч. Ён старанліва выкарыстаў гэты спрыяльны час для ўмацавання ўнутранага жыцця ў манастыры, капітальнага рамонту яго збудаванняў і на пабудову новых аб'ектаў. Але неўзабаве становішча праваслаўных зноў пагоршылася, іх сталі лічыць агентамі маскоўскага цара, паўсюдна праследаваць і дамагацца, каб у доказ вернасці Рэчы Паспалітай яны перайшлі ў каталіцызм або унію. Гэтаму націску паддаліся многія. Становішча Свята-Ануфрыеўскага манастыра пагоршылася яшчэ і тым, што Яблачын перайшоў ва ўладанне Радзівілаў, якія сілаю заганялі ва унію. Яго брацію ўсялякімі спосабамі прымушалі прыняць унію, наязджалі збройна, рабавалі маёмасць і дакументы, глуміліся над манахамі і святынямі, не дазвалялі прымаць новых паслушнікаў. Аднак манастыр вытрымаў усе гэтыя праследаванні і не здрадзіў Праваслаўю. Не палепшылася яго доля і калі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай ён апынуўся спачатку пад аўстрыйскай, а потым расійскай уладай, бо па-ранейшаму заставаўся маленечкім астраўком Праваслаўя ў аграмадным моры уніяцтва. Але ён не спыняў свае місіі праваслаўнага светача. У 1875 годзе уніяты Паўднёвага Падляшша і Холмшчыны вярнуліся на ўлонне Праваслаўя, але многія з іх далучыліся таксама да Каталіцкага касцёла. Яблачынскай абіцелі ў той час выпала вельмі адказная роля ва ўваскрашанні і ўмацоўванні веры продкаў і яна зрабіла вельмі многа: у ёй працавалі школа, розныя курсы. Гэтую працу перапынілі падзеі І сусветнай вайны і непрыхільныя Свята-Ануфрыеўскаму манастыру адносіны з боку ІІ Рэчы Паспалітай, асабліва ў 1938 годзе гаэнні на праваслаўных і разбуранне праваслаўных цэркваў на Паўднёвым Падляшшы, Холмшчыне і Валыні.

Цяжкі лёс выпаў манастыру падчас нямецкай акупацыі: фашысты абрабавалі яго, спалілі большасць будынкаў, забілі аднаго манаха. Пасля вайны не абмінула яго злой славы акцыя „Вісла”, толькі дзякуючы вялікім намаганням тадышняга кіраўніцтва Праваслаўнай царквы ў Польшчы ўдалося яго ўратаваць. Адрадзіўся ён толькі ў канцы 60-х гадоў. Так ад пачатку свайго існавання і да сённяшняга дня, больш за паўтысячу гадоў Свята-Ануфрыеўскі манастыр стаіць цвёрда ў веры праваслаўнай.

Нізкі зямны паклон і глыбокая пашана ад усіх нас належыцца гэтай святой абіцелі і яе брацці: і той, якая адышла да Усявышняга, і той, што сёння нясе свой нялёгкі манаскі падзвіг у яе мурах, на беразе магутнага Буга.

**Мікола ГАЙДУК**

# „За ракою Нарвай сталі”

Беларусы Беласточчыны вядомы сваімі песнямі далёка за межамі сучаснай Польшчы і Беларусі. Беларускія музыкальныя калектывы з Падляшша прэзентавалі сваё мастацтва ў многіх краінах. Штораз часцей выпускаюцца касеты з запісамі іхных выступленняў. Народная музыкальная творчасць беларусаў у Польшчы становіцца даступнай вельмі шырокаму колу асоб на розных кантынентах.

Вялікая беларуская вёска Рыбалы, распалажаная на правым беразе Нарвы, славіцца таксама сваім мужчынскім хорам „Хлопцы-рыбалоўцы”. Нядаўна выдадзеная касета з запісамі песень Мікалая Ігнацюка і Аляксандра Раманюка ў выкананні хору, якім кіруе Янка Бурнос, прымушае адгукнуцца на гэтае здарэнне, заўважальнае не толькі ў культурным жыцці Падляшша.

Жыхары буйных гарадоў даўно затужылі па чысціні падобных напеваў, вельмі блізкіх да арыгінальна народных. У мелодыцы хору адчуваецца таксама ўплыў царкоўных песнапенняў, асабліва пры выкананні песні „Усходзіць ясна сонца над зямелькай нашай”. У ёй жа адначасна выразна выступаюць і старажытныя, глыбока народныя вобразы („усіх тут адкарміла нас зямелька маці”), вечнае філасофскае гучанне якіх цяпер не толькі не прыціхла, але ўзмоцнілася. Паасобныя песні быццам бы працягваюць традыцыю знакамітых Багагласнікаў, перш за ўсё твор „Сумрак вячэрні”. Добрая палова прэзентаванага рэпертуару звязана з падзеямі ІІ сусветнай вайны: „На кургане”, „У 41-м годзе”, „Чорная хмара”, „У баі пад Нарвай” і іншыя. Вельмі запамінаецца блізкая да гульнявой песні „Дзеўкі пасварыліcь”. Ні ў чым не ўступае лепшым прыкладам народнай песеннай мілямудрасці „Як хуценька праходзяць гады маладыя”.

Хочацца мне пажадаць рыбалаўскаму калектыву далейшых поспехаў і спадзявацца, што неўзабаве будзем мець нагоду паслухаць новыя запісы і выступленні. Магнітафонная плёнка, а магчыма і кампакт-дыск, данясуць у дамы далёкіх і блізкіх слухачоў гукі беларускіх напеваў з Польшчы. Хочацца іх слухаць зноў і зноў і нам у Маскве. Хочацца слухаць не толькі масквічам-беларусам, але ўсім, каму дарагая тысячагадовая сялянская культура, славянскае народнае мастацтва.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ (Масква)**

# Заблудаўская таўкучка

У апошні ліпеньскі аўторак давялося мне пабываць у Заблудаве, каб купіць неабходныя матэрыялы для рамонту сваёй хаты. Было яшчэ ранавата і ўсе крамы былі яшчэ зачынены. Вырашыў я тады паглядзець заблудаўскую таўкучку, якую рынчачкам называюць. Змяшчаецца яна на пляцы ГСу, ля магазінаў і пункту скупкі жывёлы.

Раней таўкучка знаходзілася ў цэнтры Заблудава, каля касцёла, але прадаўцы, пераважна з-за ўсходняй мяжы, развешвалі свае тавары на касцельным паркане і ксёндз з вернікамі сталі пратэставаць. Тады менавіта ўлады вырашылі перанесці таўкучку ў іншае месца.

Цяпер гандляры раскладваюць свае тавары проста на зямлі і часам перашкаджаюць даехаць да магазіна са штучнымі ўгнаеннямі, дайсці да жалезнай крамы ці даехаць на так званую вазавую вагу. Найгорш бывае, калі пройдзе дождж, бо тады тавары кладуць проста ў балота, падкладаючы дошачкі ці фольгавыя мяшкі або кардон.

Калі мне прыйшлося гаварыць з жыхарамі Заблудава, яны мне сказалі, што гарадскія ўлады за карыстанне пляцам бяруць ад 2 да 5 злотаў ад асобы, у залежнасці ад тавару, але парадку на рынечку няма ніякага. Заблудаў гэта горад і я раіў бы бурмістру прыехаць у Нарву і паглядзець нарваўскую таўкучку, дзе стаяць акуратныя сталы, прыкрытыя ад дажджу, пры якіх прыемна стаяць і прадаваць.

Вось што значыць, калі добры гаспадар у гміне, які стараецца аб усім.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

# Пісаць як было

**(Аспект смерці)**

Чытаючы розныя публікацыі на тэму крывавага рэйду Райса-„Бурага” па Беласточчыне пасля вайны, пішучы не звяртаюць увагі на трагізм сітуацыі; яны як бы не бачаць розніцы паміж нанесенымі пакутамі, якія вядуць да смерці, а раптоўнай смерцю.

Памінаючы факт, што кожная нявінная ахвяра кладзецца ганьбай на злачынцы і прыносіць трагедыю для сям'і, то аднак, трэба заўважаць розніцу паміж куляй у зад галавы, а агнём, які наносіць ахвяры, часта параненай, памалу з наўмыснасцю ўласцівай агню, смерць жыўцом, калі нешчаслівец, нюхаючы сваё апаленае цела, з візгатам чакае нейкага ратунку. А ўжо ніхто з нас не можа ўявіць сабе трагедыі маці, якая ведае, што згарыць разам з дзіцём, якое яна носіць пад сэрцам. Так было ў Залешанах!

Калі віцэ-маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі 18 лістапада 1994 г. заклікаў дэпутатаў прызнаць злачыннай дзяржаўную бяспеку, службу бяспекі, вайсковую інфармацыю і пракуратуру, матываваў гэты заклік так: „Niech państwo nie zapominają krzyku chorążego katowanego w ubeckich kazamatach!”. І гэта дало рэзультат — на ўсе парамілітарныя структуры ПНР лягла калектыўная адказнасць. І то, між іншым, за тое, што баранілі дзяржаўную маёмасць, напрыклад, ахова чыгункі ці групы самаахоўы, якія баранілі свае сялібы перад чысткай з боку бандаў, якія дбалі аб чысціню расы.

Пан Тадэуш Касоўскі ў „Głosie Kombatanta AL” (nr 4), аналізуючы змест „Księgi hańby” напісаў: „I cóż to za bohaterstwo masowo rozstrzeliwać bezbronnych ludzi?” Ён гаворыць і аб іншых чым расстрэлы злачынствах, але экспануе расстрэлы і вельмі востра ставіцца да бандаў.

Я, ведаючы прымяняемыя тады метады ў адносінах да сваіх „ворагаў”, напісаў пану Т. Касоўскаму, што гэта былі джэнтльмены і добрыя гаспадары; джэнтльмены, бо, напрыклад, вазакоў-сялян пабілі кланіцамі, каб стралянінай не разбудзіць сялян Пухалаў-Старых, а гаспадары, бо шкадавалі патронаў; для гэтай мэты прымянялі яны гатовы агонь, бо так ці так, у вёскі ж гараць. Кідалі іх жыўцом у агонь (як селянін калісьці прыкурваў папяросы ад газавай лямпы, нічога не трацячы, бо гэтая капцілка і так гарэла), або забівалі калкамі ці кланіцамі.

На эксгумацыі ахвяр сказанае мною пацвердзілася; выкапаныя людзі мелі раструшчаныя чэрапы, а ў адным з іх тырчэў цвік. Сёння той, каго за гэта судзілі, атрымаў вялікую грашовую кампенсацыю і ходзіць у арэоле героя.

Увесь свет ведае аб расстраляных афіцэрах у Катыні, Медным і Харкаве, ды ўсе ім спачуваюць, але ніхто не ведае і не хоча ведаць аб бальшавіцкіх салдатах замораных голадам у польскіх лагерах пад адкрытым небам, або пастраляных і закіданых гарадскімі брудамі, каб і следу ніхто не знайшоў.

**Васіль ПЕТРУЧУК**

# Тэатр „Жывое слова” запрашае

У днях 23—29 жніўня 1997 г. адбудзецца чарговы рэйд тэатра „Жывое слова”.

Вандроўка тэатральнай групы будзе ісці шляхам:

23 — Беласток — Кленікі
24 — Лянева — Курашава
25 — Койлы — Шастакова
26 — Чыжы
27 — Збуч
28 — Мора
29 — Беласток

Дырэктар тэатра Ян Мордань запрашае ўсіх аматараў беларускага жывога слова на вандроўку, а жыхароў вёсак, якія знаходзяцца на шляху паходу артыстаў, да ўдзельніцтва ў спектаклях.

# Парнасік

## Чалавек чалавеку

Так было спрадвеку —
Чалавек быў зверам чалавеку.
Біў, паліў і рабаваў.
Сябе мудрым а іншага
Дурнем называў.
Колькі нявіннае крыві
і слёз людзі пралілі!
Колькі дзяцей сіротамі сталі
Або загінулі, жыцця не спазналі.
Калі будзе гэтаму канец?
Людзі, калі ж вашыя сэрцы
стануць такія, як маюць дзеці?

**Аўрора**

## Жніва

Калісь так бывала:
Сярпом жыта жалі,
Цяжка была праца,
А песні спявалі.
Як перапяліцу
Стануць убіраці,
Вялікая радасць
Была дзецям ў хаце.
Будуць ўжо дажынкі
Пап'юць, паспяваюць,
Халоднай вадою
Ўсіх паабліваюць.
А цяпер машына
Загудзе на полі
Гаспадар ў цянёчку
Чакае лепшай долі.
Дзе жыта прадаці,
Каб грошай здабыці,
За машыну „Бізан"
Чымсь каб заплаціці?
Ды яшчэ падаткі
Трэба заплаціці
Ну і *павадзянам*
Жыта выдзяліці.
Трэба для іх даці,
Якась ратаваці,
Вада пазабірала
Ім усё із хаты.

**Мікалай Лук'янюк**

## Пра людзей з Тафілаўцаў

Б'е Валодзя вепрука,
Выпівае юху,
Потым ідзе цалаваць
Варэчку — старуху.
Трэба мне было б Валодзю
Чытаць навучыці.
У „Біблії" пішa выразна,
Каб крыві не піці.

* * *

У мэнэ на полі грэчка,
У мэнэ на полі грэчка.
Але мэнэ любыт,
Але мэнэ любыт
Праведна Варэчка.
Любыт прасты, ткаты
І ісгы варыты,
Любыт мэнэ мужа
Любыт мoі діты
Ныхто ны розлучыт
Ужэ мэнэ з ёю.
Добра была молода,
Полюблю старую.

* * *

Раз Міколка і Мяфодзій жалі жыта.
Памагала ім ў рабоце Таня
працавіта.
І вазілі у ГС збожжа цэлы тоны,
Каб брат у горадзе быў сыты
і задаволёны.
Аднак брату ў горадзе
няшчасце стала
І памёр гэты вучоны якіх мала.
І хоць хлеба, солі ёсць удоваль
у хаце,
Плача Таня яшчэ сёння па браце.

**Мар'я Пень**

## Космас і што далей

Амерыканскі зонд заляцеў
на Марс —
У навуцы гэта аграмадны марш.
Гэты робат зрабіў расследаванні
І іншыя дзівосныя разведванні.
Пасылаў хвалямі на Зямлю
шыфры разбіраць
І гэтыя даныя па цэлым свеце
пасылаць.
Ніякая сенсацыя не здарылася,
Хаця многія вучоныя гэтым
займаліся.
Марс — планета мёртвая ад вякоў,
А колькі змарнавалася грошай
і паперы радкоў.
Хаця там ёсць рэдкая атмасфера,
Але чалавечая цікавасць і вера
Пхае яго туды, дзе немагчымае,
Што яму здаецца цудоўнае і дзіўнае.
Аднак далёка гэта ад нас і высока —
Вышэй сябе не выскачым крокам.
А космас вельмі каштуе
І ці нас паратуе?
Я не супраць таго — хай гадаюць
І касмічныя веды пашыраюць.
Але няхай завысока не пнуцца
Але расследаваннямі Зямлі
займуцца:
З гэтага будзе толк і карысць,
І хто ведае — лягчэй мо будзе жыць.
Лепш зрабіць парадак на Зямлі
і над ёю
І таму сказаць і напісаць я пасмею:
Космас — цудоўная рэч і навука,
І няхай чалавечы розум і залатыя рукі
Надалей працуюць у гэтым
напрамку.
І будзем надалей дзівавацца
нябесным ранкам,
Калі яшчэ пры золаку відаць зоркі,
І даражэй за ўсё зямля наша
і панадворкі.
Наша планета, Зямля, даражэй
золата
І крывавымі войнамі і непарадкамі
змолата.
Зрабіць трэба з яе запаведнік
прыроды,
Каб не загінулі арганізмы і роды.
Чалавек гэта можа зрабіць,
калі схоча
Адкінуць ад сябе зло і раскошу.

**Мікалай Панфілюк**

# Вер — не вер

Астроне! Сніцца мне, што я на рабоце. Стаіць драбіна. Я лезу па гэтай драбіне наверх. А там мой кіраўнік зні- маў талеркі. Яны ў яго рассыпаліся і адна зваліласа на маю галаву і пакалечыла мяне. Цячэ кроў.

У тую ж ноч прысніўся мне мой сын — валасы ў яго былі доўгія, белыя і кучаравыя.

Што прадвяшчаюць мне гэтыя сны?

**Людміла**

Даражэнькая Людміла! Твой сон, які на першы погляд, здавалася б, можа прадвяшчаць нешта кепскае, абазначае толькі добры ход падзей у тваім жыцці. Каб адно часцей такія сны сніліся!

Давай разбярэм яго разам. Ты ўзлазіла па драбіне наверх. Калі сніцца драбіна, можа гэта мець двваякае значэнне: узыходзіць наверх — поспех і дасягненне мэты, сыходзіць уніз, спускацца — траціць гонар і цярпець розныя няўдачы. Няма патрэбы непакоіцца, бо цябе чакае поспех. Ты па гэтай драбіне ўзыходзіла, будучы на рабоце, значыцца і поспехі будуць датычыцца, бадай, тваёй працы. Можа будзе нейкае павышэнне, бо бачым жа, што і твой кіраўнік быў наверсе. Не хвалюйся, што талеркі рассыпаліся ў яго руках і адна з іх звалілася на тваю галаву, а да таго ж і пакалечыла цябе так, што аж пацякла кроў. Раны якраз прадвяшчаюць здароўе і дабрабыт, а нават і багацце. Бачыць сябе ў сне параненым — спадзявайся багацця, бачыць некага параненым — будзе непрыемнасць.

Твой другі сон не толькі пацвярджае першы, але і як бы пашырае яго, удакладняе. Справа ў тым, што табе прысніліся надта прыгожыя, доўгія і кучаравыя валасы ў твайго сына. А валасы калі бачыш у сне густыя, доўгія, прыгожыя — ведай, што будзеш мець багацце і сілу; калі сняцца слабенькія, вылазячыя валасы — абазначае гэта хваробу і беднасць. Гэтае астатняе, на шчасце, цябе не датычыцца. Жадаю табе ўсяго найлепшага!

**Астрон**

# Паехалі „Фольксвагенам", вярнуліся ПКСам

Дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Орлі Аліна Петручук заяўляла нядаўна пра далейшае развіццё культурнага абмену паміж Орляй і Гроднам. Аказалася, што... абмянялі.

2 жніўня, у суботу, адбылася чарговая (другая ў гэтым годзе, а трэцяя ў гісторыі абмену) паездка калектыву „Арляне" ў Гродна. Паехалі яны на новым гмінным мікраааўтобусе маркі „Фольксваген". Відаць, такія паездкі вельмі прыемныя, сардэчныя і гасцінныя, калі прывабілі нават самога войта гміны Міхала Іванчука.

Замежныя гастролі аказаліся вельмі кароткімі, бо ўжо ў панядзелак, 4 жніўня, спевакі вярнуліся ў Орлю. Вечарам гэтага ж дня пайшоў я ў ГОК распытаць спадарыню дырэктар пра ўражанні ад канцэртаў у Гродне. Аднак яна размаўляць не схацела, толькі зрабіла наступную заяву: „Нічога не скажу, бо аб чым тут гаварыць, калі ўкралі машыну. Калектыў таксама выказвацца не будзе". Затым перапрасіла мяне, што ў яе няма часу, бо акурат прыехалі госці — пасол Сяргей Плева з жонкай і сакратаром ГП БГКТ Валянцінай Ласкевіч.

Пасля вяртання з Беларусі арлянскія культработнікі маўчаць, быццам вады ў рот набраўшы. А ў Орлі людзі і так гавораць, што „самаход прагулялі".

**Міхал Мінцэвіч**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. царыў калісь там Пір, а цяпер яго адміністрацыйным цэнтрам Яніна (Грэцыя), 8. Гракх, французскі рэвалюцыянер (1760—97), 9. горад у еўрапейскай частцы Турцыі, 10. небяспечная вірусная хвароба, 11. правадыр гунаў або опера Вердзі, 13. Аляксандр, расейскі жывапісец (1806—58), 15. горад у Цюрыхгі (Германія), 16. Янаш, венгерскі паэт (1817—82), 20. варатар, 22. Міхаіл, расейскі пісьменнік (1891—1940), 23. араматычная смала, 27. вулкан між Суматрай і Явай, 29. парабак, 30. ільдзіна, 31. высокія футравыя боты, якія носяць на поўначы, 32. Генры, англійскі кампазітар (1659—95), 33. Беціна фон, нямецкая пісьменніца (1785—1859), 34. з шыбай у раме.

**Вертыкальна:** 1. Шарль дэ, бельгійскі пісьменнік (1827—79), 2. Арнольд, швейцарскі жывапісец (1827—1901), 4. можа быць і Пірава, 5. Ілья, расейскі жывапісец (1844—1930), 6. напісаў „Жураўліны крык", 7. верталётаў дом, 12. Дыега, іспанскі канкістадор, заваёўнік Перу (1478—1538), 14. воўчы пярэварацень, 16. каўказскі воз, 17. горад на Роне (Францыя), 18. ніз, дно, 19. Грэсм, англійскі пісьменнік (1904—91), 21. абарыген, 24. багіня світання, 25. частка Вялікабрытаніі, 26. рачны грызун, 27. прыгажосць, 28. марская драпежная рыба. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 27 нумара.**

**Гарызантальна:** шчолач, зрэнка, агурок, цыкл, дзяк, аднагетнік, ярка, унты, мякіна, галета, гавань.

**Вертыкальна:** шчыпцы, ачаг, зрок, касцяк, Урублеўскі, кладка, дзікун, яранга, тытунь, мята, нага.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Самборскай** з Беластока.


# Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка). Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пляваць

Пазнаёміліся мы выпадкова. Яна паплёўвала з моста, а я якраз ішоў унізе — проста пад ёй... Кропелькі яе сліны трапілі мне прама на твар. Я спыніўся і таксама плюнуў. Уверх... Зразумела, дакладна!

— Ты што, ідыёт? — спытала яна зверху.

— Ага, круглы! — адказаў я з пачуццём уласнай годнасці.

— Адкуль ты такі браўся? — ужо з непадробленым інтарэсам спытала яна.

— З-пад моста... — адказаў я няшчыра, уважліва вывучаючы яе фігуру. Яна бягом спусцілася ўніз і пайшла побач са мной.

— Дзе ты так навучыўся пляваць? — спытала яна з зайздрасцю.

— У заапарку. У вярблюда... Паўгода вучыўся... — паясніў я.

— Эх, а я вось не здагадалася! — сканфузілася яна.

— Пусцяковіна! Надгоніш! — падбадзёрыў яе я.

— Мне здаецца, што я цябе чакала ўсё жыццё! — заявіла яна праз пяць мінут.

— Сплюнь, — параіў ёй я.

— Тфу-тфу-тфу! — сплюнула яна праз левае плячо, дакладна трапіўшы ў ветравое шкло аўтамабіля, які праязджаў міма.

— Ну вось, ты ўжо робіш поспехі! — ацаніўшы яе меткасць, канстатаваў я.

— Пойдзеш да мяне! — прапанавала яна пасля майго камплімента.

— А напляваць! Пайшлі! — згадзіўся я.

Мы прыйшлі да яе, і яна адразу ж пабегла ў ванную. Седзячы на канапе, я чуў, як яна адплёўвалася ад трапіўшай у рот вады і спакойна чакаў... Нарэшце яна выйшла і, паплёўваючы скрозь зубы, накінулася на мяне... Пасля бурна праведзенай справы, мы доўга ляжалі абняўшыся і плявалі ў столь. Потым я ўскочыў і пачаў хутка збірацца. Яна з наплявацельскім выглядам сачыла за маімі рухамі...

— Калі мы яшчэ паплюём? — нарэшце не вытрымала яна.

Я нічога не адказаў і адчыніў уваходныя дзверы...

— Мне на цябе напляваць! — адрэагавала яна на мой дэмарш, тут жа прывёўшы ў выкананне сваю пагрозу.

— Недалёт! — канстатаваў я і машынальна адказаў узаемнасцю на яе „ласку". Усё ж такі не дарэмна я вучыўся ў вярблюда.

**Антон Макуні**

*Пераклаў Валерый Бабей*




*Мал. Алега Карповіча*

### Чатырохрадкоўі

Шчупак заўжды пры выдурносці —
Да карася спяшае ў госці...
Карась на тое і карась,
Каб улізнуць ад госця ў гразь.

* * *

Чарвяк здаўна прыжыўся ў глебе,
Жыў і пры чарцы, і пры хлебе.
Перамудрэў! На сонца вылез.
Цяпер, глядзі — у вужаку вырас!

Ваўка нанялі ў пастухі.
Праз дзень ад статка патрахі.
Пабачыў фермер і заплакаў:
А як скуголіў гад, як гаўкаў!

**Алесь Пісарык**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Мядовы месяц канчаецца тады, калі сабака прыносіць мужу тапкі, а жонка пачынае варыць.

* * *

— Кожны халасцяк марыць пра добрую жонку.

— Кожны жанаты таксама.

* * *

— Чуў я, што ты ажаніўся вельмі рамантычна, забіраючы ўзахоп сваю дзяўчыну...

— Гэта праўда.

— А бацькі яе: не даганялі вас?

— Даганялі.

— І што: не дагналі?

— Дагналі.

— І як гэта закончылася?

— Займаюць цяпер наш найбольшы пакой.

* * *

Бабулькі пра суседа:

— Ён вельмі набожны, — кажа адна.

— Моліцца?

— Не, але ніколі не лаецца па нядзелях і святах.

* * *

Размова дзвюх сябровак:

— Навошта прычапіла ты пры тэлевізары люстэрка, накіраванае на кухню?

— А ты ведаеш, якая гэта выгада! Такім чынам магу наглядаць, як мой змывае посуд.

* * *

Бацька да сына, які хоча жаніцца:

— Запамятай, сыночак, што першай прыемнасцю ў сужонстве з'яўляецца развод.

* * *

Дачка да маці:

— Дом для маладое дзяўчыны, гэта астрог...

— А для пажылой, гэта выхаваўча-працоўная калонія.

* * *

Заклапочаная маці да сына:

— Ажаніўся б, пасталеў бы. Напэўна знойдзеш дзяўчыну, якая будзе мець сходныя зацікаўленні...

— Мамачка! Навошта мне такая, што напівае, курыць ды лайдачыцца па дыскатэках?!

## Сардэчныя тайны

Не ведаю, Сэрцайка, ці ты мне паверыш, але, дальбог, пішу праўду. Так падабаўся ён мне, так падабаўся. Заўсёды ў беззаганна чыстай кашулі, акуратны, пахнуў добрымі папяросамі. Я думаю, кожнай бы ён падабаўся. Імпанаваў мне не столькі тым, што быў за граніцай (хаця і гэты факт быў не без значэння), колькі тым, што быў іншы, чым мае сябры, адрозніваўся нечым няўлоўным, таямнічым.

Я закахалася.

Да яго ў мяне не было хлопца, з якім я б хадзіла сур'ёзна. А для гэтага я гатова была б зрабіць усё. Адно мяне аднак мучыла: ён ужо быў жанаты. Не скрываў гэтага, сам мне пра ўсё расказаў. Дзяцей яны не мелі, бо нешта там не ладзілася ў жонкі. А жылі ўжо дзесяць гадоў. Аддалася я яму, можна сказаць, з поўнай свядомасцю невядомай будучыні, але з вялікім пачуццём і заангажаваннем.

А калі аддалася, то зараз і падумала, што лепш бы гэтага не рабіла. Я не адчула даслоўна нічога з таго, чаго спадзявалася. Я столькі наслухалася пра тую вяршыню раскошы, пра каханне ў экстазе, пра апагей, а пры палавых зносінах не адчувала, дальбог, нічога. Дзякуй Богу, што ён са сваімі „магчымасцямі" ледзь пазбавіў мяне дзявоцтва. Я б яму нават і дапамагла, ды толькі не ведала, як. Ляжала і чакала.

І так я ў свае васемнаццаць гадоў сталася афіцыйнай каханкай трыццаціпяцігадовага жанатага мужчыны, які прыязджаў раз у месяц па справах фірмы з адной з заходніх краін.

Я была крыху расчараваная. Тое захапленне перайшло ў нейкае іншае пачуццё, напэўна намнога слабейшае. Але мне надалей было з ім добра. Я пераконвала сама сябе, што мне яшчэ рана думаць адно пра секс, што хай гэта будзе для яго. У свой час усё наладзіцца... Але дзеля таго, каб нешта змянілася, трэба было, бадай, памяняць хлопца. Ахвоту то ён меў, але з „валёрамі" было горш.

Я нават думала спачатку, што перастану яго кахаць. Але не, мне было прыемна чакаць мужчыну з-за граніцы, які прыязджаў рэгулярна раз у месяц і тады абсыпаў мяне падарункамі, даваў грошы, стараўся выканаць кожнае маё жаданне. Калі ён прыязджаў у наш горад, мы ўсюды разам хадзілі і тады быў вельмі далікатны і апякунчы. Дастаткова, што я адчувала сябе ў той момант, як у раі. Усё гэта так адрознівалася ад таго хамства, што акружала мяне.

Я пра тое, які мой каханак у пасцелі, нікому не расказвала. А чым хваліцца? Я лічыла, што калі вырашыла хадзіць з ім, дык павінна маўчаць. Сяброўкі даслоўна лопалі ад зайздрасці. Бач ты яе, казалі няраз, як прыстроілася: анучы, грошы, жыве сабе прыпяваючы. А я ім і не тлумачыла, што ў жыцці яно так бывае, што няма нічога задарма: нешта аддаеш за нешта.

Карацей гаворачы: ён купіў мне кватэру, навучыў дасканала гаварыць на яго мове, у выніку таго я стала перакладчыцай. У хату купляў дываны, посуд, усё было адчыканена. Мне і сястры купіў футры. Нават запрашаў нас часамі да сябе, у дачны домік, які стаяў у лесе, і жонка яго пра гэта не ведала, мяркуючы, што ён там знаходзіцца са сваімі калегамі.

Ніколі аднак, нават адным словам не намякнуў, што развядзецца. Ніколі не сказаў, што хацеў бы мець дзіця са мною (бадай, гэта было б лагічна, калі жонка не магла яго мець!). Мне часамі было балюча і крыўдна.

Я не перастала спатыкацца з гэтым чалавекам нават тады, калі сустракалася з тым ці іншым сябрам. Я ведала, што ён заўсёды вернецца да мяне з-за граніцы. Зрэшты, ён пра тое-сёе ведаў. Нельга было зрабіць толькі адно: выйсці замуж.

І так ён убіў мяне ў старапаненства. І я падумала цяпер, што мо я змарнавала сваё жыццё, бо нават ужо і на дзяцей запозна.

**Данка**

Дануся! Ты ж сама сказала, што ў жыцці нічога няма задарма. За ўсё трэба плаціць!

**Сэрцайка**